Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ
Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 14 (4712) 5 красавіка 2013 г.



# КРОКІ НАСУСТРАЧ



*Фота Кастуся Дробава*

2 — 3 красавіка Мінск наведала прадстаўнічая дэлегацыя расійскіх літаратараў. У яе склад увайшлі кіраўнікі найбольш уплывовых літаратурна-мастацкіх выданняў Расіі. Праграма візіту прадугледжвала сустрэчу з рэдактарамі беларускіх літаратурных часопісаў, удзел у адкрыцці фотавыстаўкі «Помнікі Ніжагародскай Айчыны», сустрэчы з выкладчыкамі і навучэнцамі мінскіх гімназій, а таксама ўдзел у «круглым стале» «Беларусь — Расія: вопыт і перспектывы літаратурнага супрацоўніцтва».

Адкрываючы «круглы стол» у Расійскім цэнтры навукі і культуры, першы намеснік Міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч падкрэсліла высокую місію слова ў развіцці стасункаў паміж дзвюма дзяржавамі: «Менавіта пісьменнікі сёння няспынна ўмацоўваюць духоўнымі повязямі нашу садружнасць і адзінства». Усе ўдзельнікі сустрэчы атрымалі ў падарунак кнігу «З думай пра Радзіму» (зборнік твораў пісьменнікаў Беларусі і Расіі) — першую ў серыі «Сугучча сэрцаў», ініцыіраванай міністэрствам інфармацыі нашай краіны і РВУ «Выдавецкі дом «Звязда». У сваю чаргу, расійскія госці гаварылі пра неабходнасць паглыблення супрацоўніцтва. Прынамсі, Аляксандр Казінцаў, першы намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Наш современник», зазначыў, што без «узаемных крокаў насустрач» не было б многіх сённяшніх сумесных праектаў. Да прыкладу, з 2004 года ў рамках праекта Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы выдаюцца абменныя нумары: айчынная літаратура прадстаўляецца ў Расіі на старонках «Нашего современника», а расійская — у часопісе «Нёман». З беларускай літаратурай знаёмяць таксама часопіс «Сибирские огни» і «Литературная газета», прадстаўленыя Уладзімірам Бяразевым і Алесем Кажадубам.

Удзельнікі сустрэчы абмеркавалі новыя літаратурныя праекты. Расійскія пісьменнікі заклікалі калег з Саюза пісьменнікаў Беларусі знаёміць іх з маладымі імёнамі нашай літаратуры, актыўна браць удзел у конкурсах і творчых форумах Саюзнай дзяржавы.

**Раіса СІНЯЎСКАЯ**

*Інтэрв'ю з удзельнікамі дэлегацыі вы зможаце прачытаць у наступным нумары «ЛіМа».*

## Пункцірам

✔ Старшыня Вышэйшага Дзяржаўнага Савета Саюзнай дзяржавы, Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з Днём яднання народаў Беларусі і Расіі прадстаўнікоў дзвюх краін. «Вопыт беларуска-расійскай інтэграцыі паспяхова прыменены ў сучасных маштабных праектах — Мытным саюзе і Адзінай эканамічнай прасторы. Ён будзе выкарыстаны пры руху да наступнай пастаўленай намі мэты — Еўразійскага саюза. Мы прыйдзем да іншых арганізацыйных форм і ўзроўняў інтэграцыі, аднак фундаментам гэтых працэсаў назаўсёды застанецца гістарычнае рашэнне нашых народаў, прынятае 17 гадоў таму», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ На адкрыцці Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка заначыў, што ў Беларусі будзе працягнута рэалізацыя праграмы рэканструкцыі і тэхнічнага перааснашчэння дзяржаўных тэатраў.

✔ Новым старшынёй Беларускай канфедэрацыі творчых саюзаў абраны Генеральны дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь Уладзімір Пракапцоў. Як зазначыў міністр культуры краіны Барыс Святлоў, які раней узначальваў гэту грамадскую арганізацыю, дзейнасць Канфедэрацыі павінна быць скіравана на павышэнне ў грамадстве статусу творчых работнікаў, узаемадзеянне дзяржавы і творчых саюзаў. Задача Канфедэрацыі таксама — абарона сацыяльна-эканамічных інтарэсаў і аўтарскіх правоў дзеячаў нацыянальнай культуры і мастацтваў.

✔ Віцебскім абласным выканаўчым камітэтам па ініцыятыве абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі заснавана літаратурная прэмія імя Петруся Броўкі. Сярод узнагароджаных — старшыня Віцебскага абласнога аддзялення СПБ Тамара Краснова-Гусачэнка, якая днямі адзначыла свой юбілей. Лаўрэатамі конкурсу таксама сталі Фёдар Палачанін, Галіна і Сяргей Трафімавы.

✔ Беларускі пісьменнік Міхаіл Шэлехаў увайшоў у шорт-ліст конкурсу «Руская прэмія» ў намінацыі «Малая проза» за зборнік «Калодзеж патопу. Арыентальныя навелы». Усяго ў шорт-лісце дзевяць рускамоўных паэтаў і празаікаў з васьмі краін — Беларусі, Аўстраліі, Вялікабрытаніі, Германіі, Даніі, Кыргызстана, ЗША і Украіны.

**Падрыхтавала Таццяна МАСТОЎСКАЯ**

# Першыя на Курылах

**У Дзень яднання народаў Беларусі і Расіі адбылася прэзентацыя кнігі Паўла Саенкі «Беларусь і Расія: жывыя ніткі роднасці».**

**Ірына ТУЛУПАВА**

Капітан І рангу ў запасе Павел Саенка пачынаў кар'еру ў ваенных гарнізонах Эстоніі, праслужыў 28 гадоў у Ваенна-марскім флоце Расіі, выкладаў у ваенных ВНУ, цяпер з'яўляецца намеснікам старшыні аб'яднання «Беларусы Урала».

Задума кнігі пра Беларусь і беларусаў з'явілася ў творцы, калі ён вывучаў дакументальныя крыніцы, у прыватнасці, пра тое, як далёка на Усход зайшлі расіяне. І аказалася, што паўсюдна поруч з імі ішлі беларусы. Так, сярод першых расіян, якія пабывалі на Курылах, — унук выхадца з Магілёўскай вобласці; у экспедыцыі на Паўночным марскім шляху было шмат беларусаў, нашых суайчыннікаў; будавалі гарады. Прычым аўтар заўважыў, што беларусы прыязджалі ў Расію высакакласнымі спецыялістамі. Сярод іх — дойліды, інжынеры і тэхнолагі, вучоныя, военачальнікі. Па-свойму адказаў пісьменнік і на пытанне, чаму сярод беларусаў шмат дыпламатаў: «Галоўная рыса — талерантнасць — дазваляе кожнага, нават не падобнага да цябе, успрымаць як роўнага».

Сярод тых беларусаў, хто шануецца на Урале ў нашыя дні і стаў ганаровым грамадзянінам Екацярынбурга, — стваральнік абласной бібліятэкі Аляксандр Кажэўнікаў; канькабежка, чэмпіёнка свету, шматразовая чэмпіёнка СССР Валянціна Сценіна (нарадзілася ў Бабруйску); віцэ-адмірал, Герой Савецкага Саюза Георгій Халасцякоў (Баранавічы, Мінская губерня) — ён адным з першых выпрабоўваў ядзерныя падводныя лодкі.

Павел Саенка — аўтар шматлікіх кніг, сярод якіх «Мы вучым лятаць ракеты», «Маршал Жукаў», «У акіяна Ціхага ёсць бераг уральскі» ды іншыя. На сустрэчы, якую арганізавалі Мінскі гарвыканкам і Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі ў сталічнай Ратушы, прысутнічалі беларускія пісьменнікі, былыя вайскоўцы, кіраўнікі цэнтралізаваных сістэм публічных і дзіцячых бібліятэк Мінска. Ім у дар аўтар перадаў па экземпляры сваёй новай кнігі. Працуючы над ёй, творца пабываў у розных куточках Беларусі і можа з захапленнем гадзінамі распавядаць пра Гомельскі абласны музей ваеннай славы і яго ўнікальныя экспанаты, пра тое, як некалькі разоў наведваў Гомель, каб сфатаграфаваць бронзавы бюст Андрэя Грамыкі, пра дзіўны горад Кобрын і музей Аляксандра Суворава. Але найперш — пра нашых суайчыннікаў, якія праславіліся далёка за межамі Беларусі. Кніга вабіць менавіта гэтай магчымасцю адкрыць імёны нашых землякоў-беларусаў, даведацца пра іх жыццё і лёсы — на падставе дакументальных матэрыялаў.

# «Палымянскія» далягляды

**Нацыянальная бібліятэка Беларусі стала месцам правядзення «круглага стала», прысвечанага выхаду тысячнага нумара часопіса «Полымя».**

**Даніла АРЦІМОВІЧ**

Дыскусію адкрыў паэт, галоўны рэдактар выдання Мікола Мятліцкі. Ён згадаў прозвішчы як славутых айчынных пісьменнікаў, так і сучаснікаў, чые творы ўпершыню з'явіліся на старонках «Полымя», падзяліўся планамі ды падкрэсліў вернасць курсу, якога часопіс прытрымліваецца апошнія дзесяць гадоў.

Літаратуразнаўца, акадэмік НАН Беларусі Уладзімір Гніламёдаў зрабіў сціслы экскурс у гісторыю выдання і нават прапанаваў правесці спецыяльны пленум Праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, прысвечаны юбілею. А таксама пакрытыкаваў сучасных празаікаў, якія ператварыліся ў кабінетных творцаў, абыякавых да сучасных праблем.

На думку акадэміка-сакратара Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі Аляксандра Кавалені, на старонках «Полымя» часам адчуваецца недахоп матэрыялаў крытычнага характару. Акрамя таго, прамоўца хацеў бы бачыць у часопісе і разважанні, адлюстраванне сённяшніх праблем, сацыяльных, палітычных. Краязнаўца Анатоль Статкевіч-Чабаганаў працягнуў гэтую думку і звярнуў увагу прысутных на праблему знікнення вёсак. Нездарма разам з імі сыходзяць у нябыт іх культура, фальклор. Творца расказаў пра сваю родную вёску на Любаншчыне, заснаваную ўсяго 120 гадоў таму. Раней там штогод праводзіліся кірмашы, а цяпер жывуць усяго чатыры чалавекі. Каб не згінула памяць і гісторыя, А.Статкевіч-Чабаганаў даследаваў гісторыю вёскі, напісаў кнігу і зрабіў фотагалерэю яе жыхароў, пра якіх удалося знайсці звесткі.

Таксама ў «круглым стале» ўзялі ўдзел намеснік дырэктара НББ Алесь Суша, дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі Вячаслаў Даніловіч, літаратуразнаўцы Сяргей Гаранін і Валерый Максімовіч, паэт, празаік, намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда», галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Алесь Бадак, публіцыст Зіновій Прыгодзін, паэт Алесь Бараноўскі і супрацоўнікі «Полымя» Уладзімір Мазго, Алесь Марціновіч і Вадзім Спрынчан.

# Гумарыстычны вернісаж

**Дзень смеху можна адзначаць па-рознаму: глядзець любімыя кінакамедыі, жартаваць з сяброў, шукаць смешныя малюнкі ў інтэрнэце. А можна наведаць выстаўку «Першакрасавіцкі мікс», якая акурат 1 красавіка адкрылася ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Тут, проста на сценах калідора, змешчаны карыкатуры, малюнкі вядомых мастакоў часопіса сатыры і гумару «Вожык», а таксама жартаўлівыя здымкі фотакарэспандэнта газеты «Звязда» Анатоля Клешчука.**

**Марына ВЕСЯЛУХА**



Фота Кастуся Дробава

Выстаўкі карыкатур з «Вожыка» ў Міністэрстве інфармацыі краіны ўжо можна лічыць традыцыйнымі. Так, пазалетась аматараў гумару парадавала экспазіцыя работ мастака-карыкатурыста, намесніка галоўнага рэдактара часопіса «Вожык» Аляксандра Каршакевіча «Карыкатура = журналістыка + мастацтва». Летась тут прайшла выстаўка-рэтраспекцыя мастака, сябра Беларускага саюза мастакоў, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Сяргея Волкава «З «Вожыкам» па жыцці», дзе можна было пабачыць — крок за крокам — развіццё таленту мастака з першых яго работ і да сённяшняга дня.

— Сёлета ў «Першакрасавіцкім міксе» мы вырашылі паказаць усё самае лепшае і яркае, што з'яўляецца на старонках нашага часопіса, стараліся прадставіць розных аўтараў, стылі, тэхнікі, — распавяла галоўны рэдактар «Вожыка» Юлія Зарэцкая. — Гэтая выстаўка падкрэслівае, што мастакоў-карыкатурыстаў сёння хвалююць розныя тэмы і аспекты нашага жыцця. Так, ёсць у экспазіцыі і работы, прысвечаныя міжнародным адносінам, і карыкатуры на экалагічную, эканамічную, сацыяльную тэматыку, і проста гумарыстычныя малюнкі.

У ліку аўтараў сёлетняга гумарыстычнага вернісажу (і, натуральна, актыўных аўтараў «Вожыка») — вядомыя мастакі-карыкатурысты Мікола Гіргель, Алег Карповіч, Алег Папоў, Аляксандр Каршакевіч, Сяргей Волкаў, Аркадзь Гурскі, Алег Гуцол і многія іншыя творцы. Прадстаўлены на выстаўцы і фотаработы Анатоля Клешчука. Здавалася б, ён «сур'ёзны» фотамастак, але паколькі фатаграфуе шмат, часам робіць кадры, спачатку нават не ведаючы, для чаго іх выкарыстае. А раптам спатрэбяцца! Вось і збіраецца «гумарыстычная папка». Здымкі з яе досыць арганічна ўпісаліся ў агульную канцэпцыю выстаўкі, зрабілі яе яшчэ больш разнастайнай.

Спадзяюся, што «Першакрасавіцкі мікс», які яшчэ цягам месяца будзе дарыць усмешкі, не проста пазнаёміць з часопісам сатыры і гумару «Вожык», але і стане выдатным чыннікам павелічэння колькасці падпісчыкаў.

**Каляндар літаратурных дат і падзей**
*Красавік*

**60 гадоў** з пачатку выдання штомесячнага літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса «Маладосць».

**2 красавіка** — 80 гадоў з дня нараджэння Віктара (Вікенція Мікалаевіча) Шымука (1933 — 1998), паэта, нарысіста.

**5 красавіка** — 220 гадоў з дня нараджэння Канстанціна Радзівіла (1793 — 1869), палітычнага дзеяча, мецэната, аднаго з першых беларускіх фалькларыстаў.

**5 красавіка** — 70 гадоў з дня нараджэння Мар'яна Мікалаевіча Дуксы (1943), паэта, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова.

**5 красавіка** — 65 гадоў з дня нараджэння Міколы Васільевіча Еляненўскага (1948 — 2013), пісьменніка, журналіста.

**12 красавіка** — 75 гадоў з дня нараджэння Алеся (Аляксандра Герасімавіча) Масарэнкі (1938), пісьменніка.

**18 красавіка** — 110 гадоў з дня нараджэння Платона Раманавіча Галавача (1903 — 1937), пісьменніка, грамадскага дзеяча.

**19 красавіка** — 120 гадоў з дня нараджэння Васіля Савіча Гарбацэвіча (1893 — 1985), драматурга, педагога, заслужанага настаўніка Беларусі.

**21 красавіка** — 110 гадоў з дня нараджэння Міколы (Мікалая Мікалаевіча) Аляхновіча (1903 — 1959), крытыка.

**25 красавіка** — 85 гадоў з дня нараджэння Святланы Леанідаўны Курылёвай (1928 — 2011), пісьменніцы.

# «Душа твая — малюнак артыстычны»

Творчасці Максіма Багдановіча і Поля Верлена была прысвечана літаратурна-музычная імпрэза ў Літаратурным музеі М. Багдановіча.

У зборніку «Вянок» паэт планаваў змясціць цэлы цыкл, які складаўся толькі з перакладаў паэзіі П. Верлена. На вялікі жаль, вершы ў зборнік не ўвайшлі, але застаецца фактам тое, што менавіта ў гэтых перастварэннях найбольш ярка праявіўся талент Максіма Багдановіча як перакладчыка.

Маладычнасць дзвюх моў, непаўторнасць перакладчыцкага таленту Багдановіча дапамагалі адчуць студэнты Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта і Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, якія чыталі вершы Поля Верлена на мове арыгінала і ў перакладзе. Гучалі вядомыя французскія песні, выконваліся творы знакамітых еўрапейскіх кампазітараў XIX ст., аздобілі сустрэчу танцавальныя нумары. У вечары ўзялі ўдзел вядомыя беларускія літаратары, перакладчыкі, навукоўцы: Пятро Васючэнка, Леанід Казыра, Галіна Адамовіч, Галіна Дубянецкая, Юлія Новік. Выступоўцы раскрывалі сваё бачанне паэзіі Поля Верлена і Максіма Багдановіча, праводзілі аналіз перакладчыцкай лабараторыі беларускага паэта.

Паэтычна-музычная імпрэза пакінула надзею на новыя сустрэчы, якія дапамогуць лепш спасцігнуць творчасць двух геніяў еўрапейскай паэзіі.

**Марына ЗАПАРТЫКА**

# Сустрэчы ў Валожыне

Літаратурнай сустрэчай з вядомым дзіцячым пісьменнікам, старшынёй Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхасём Пазняковым і прадстаўнікамі выдавецтва "Народная асвета" адкрыўся Тыдзень дзіцячай і юнацкай кнігі ў Валожынскай дзіцячай бібліятэцы. Міхась Паўлавіч упершыню наведаў Валожыншчыну, чым вельмі парадаваў сваіх чытачоў.

Вельмі цікава, з уласцівым яму гумарам, расказваў ганаровы госць пра сябе і сваю творчасць. Гучалі вершы ў аўтарскім выкананні. Дзеці з задавальненнем адгадвалі загадкі, адказвалі на пытанні і выконвалі займальныя і пазнавальныя заданні Міхася Паўлавіча. Найбольш актыўныя з іх атрымалі прызы ад аўтара і вельмі парадаваліся, калі пісьменнік папрасіў прысутных настаўнікаў паставіць ім добрыя адзнакі.

Школьнікі старанна рыхтаваліся да мерапрыемства, многія з іх вывучылі на памяць вершы госця.

Таксама на свяце былі ўзнагароджаны лепшыя чытачы бібліятэкі, пераможцы конкурсу "Мы з кнігаю сябруем!". Яны атрымалі пасведчанні "Лепшы чытач Валожынскай дзіцячай бібліятэкі" і кнігі ў падарунак.

Гэта былі не проста сустрэчы, а сапраўдныя святы роднай мовы і літаратуры.

**Алена СУГАКА**

# Да Коласа — усе сцягі

**На працягу 2013 года пяць твораў сусветнай літаратуры зоймуць месца побач з паэмай Якуба Коласа «Новая зямля» ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі класіка. Тут распачаўся Міжнародны літаратурны праект «Зямля — аснова ўсёй Айчыне», у рамках якога можна будзе даведацца пра лёсавызначальныя эпасы розных культур. Як і Коласаў твор, яны сталі «візіткамі» сваіх краін.**

Лея ХАШЫМБА

Першым госцем стаў ізраільскі твор. Гэта нават заканамерна, улічваючы, што сімвалічны сэнс беларускай «Новай зямлі» традыцыйна вызначаецца ў кантэксце біблейскай мары пра «новую зямлю пад новым небам». Коласаў твор дбае пра здзяйсненне такой жа мары. Гэтую думку паглыбіла Таццяна Студзенка, дацэнт Інстытута журналістыкі БДУ: яна нагадала, што твор Коласа ствараўся ва ўмовах, надзвычай блізкіх да тых, у якіх за 20 год да беларускага з'явіўся адпаведны твор яўрэйскай літаратуры — «Старая новая зямля» (1903) Тэадора Герцля. І ў Беларусі, і ў Палесціне існавала праблема нявызначанай зямлі, якая па тых ці іншых прычынах «нібы знікае з рэальнасці». Паводле думкі абодвух пісьменнікаў, свабодная, не пад прымусам праца — адзінае, што можа ўратаваць зямлю. Такая праца ёсць творчасць.

Як і большасць імпрэз у Доме Коласа, праект таксама мае «паліфанічны» характар, задзейнічае розныя віды мастацтва ў прэзентацыі літаратурных твораў. Гэтым разам зрокавую прастору «Новай зямлі» можна было наноў убачыць разам з мастаком Васілём Шаранговічам, аўтарам 91 ілюстрацыі да твора ў яго апошнім, трохмоўным, выданні. Мастак распавёў пра гісторыю свайго знаёмства з Коласавым шэдэўрам: калісьці вясковым хлапчуком ён чытаў урыўкі з паэмы маці і аднавяскоўцам.

Музыкі зрабілі свой унёсак: яўрэйская музычная спадчына гучала ў выкананні мастацкага трыа «Гілель», беларуская — у выкананні навучэнцаў Беларускай дзяржаўнай гімназіі-каледжа імя І. Ахрэмчыка.

Напрыканцы красавіка ў фармаце літаратурна-музычнай імпрэзы можна будзе даведацца пра сутнасна агульныя сэнсы «Новай зямлі» Якуба Коласа і рамана «Плённасць» (1899) Эміля Заля.

# Усе мы родам з дзяцінства

*Няма даражэй на свеце*
*Сустрэч,*
*Чым на родным ганку…*

Гэтыя радкі з верша «Сустрэча» Уладзіміра Мазго найбольш ярка перадаюць той настрой, з якім паэт штогод прыязджае на родную Зэльвеншчыну — на свята паэзіі і музыкі «Сакавіны». Кожную вясну ён не толькі знаёміць нас са сваімі літаратурнымі навінкамі, але і дорыць незабыўныя хвіліны сустрэч з цудоўнымі творцамі. Гэта дзякуючы яму Зэльву наведалі вядомыя беларускія паэты і празаікі Уладзімір Марук, Мікола Маляўка, Уладзімір Саламаха, Рагнед Малахоўскі, Міхась Пазнякоў, кампазітар Алег Елісеенкаў ды іншыя. Сёлета разам з Уладзімірам Мазго да нас завітаў галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура», паэт Віктар Шніп.

Уладзімір Мазго прызнаўся, што зэльвенская зямля для яго — святая: тут ён нарадзіўся, закончыў сярэднюю школу, навучыўся плаваць у рацэ Зальвянка… І першы верш быў апублікаваны на старонках раённай газеты «Праца». Гэта была своеасаблівая пляцоўка для далейшага шляху ў літаратуру.

Распавядаючы пра творчасць, Уладзімір Мазго назваў і дзве асабліва значныя падзеі мінулага года — выхад кніг для дзяцей «Лепшыя сябры» і «Загадкавая азбука».

Вельмі цікавым апавядальнікам аказаўся Віктар Шніп, які прызнаўся, што яго цікавяць розныя тэмы. Праўда, апошнім часам мала ўвагі ўдзяляе дзіцячай тэматыцы. Але выдатнае выступленне зэльвенскіх хлопчыкаў і дзяўчынак усхалыхнула душу паэта, і гэта паслужыць, як ён прызнаўся, штуршком да напісання новых вершаў для дзяцей.

Людміла ПОПКА

# …і па-кітайску

У мінскім Доме Дружбы адбылася прэзентацыя вяшчання міжнароднай радыёстанцыі «Беларусь» на кітайскай мове.

Дагэтуль перадачы радыё «Беларусь» выходзілі ў эфір на беларускай, рускай, польскай, нямецкай, англійскай, французскай і іспанскай мовах. Сёння слухачы могуць пачуць вяшчанне і на кітайскай мове, якое адбываецца кожны тыдзень з 1 студзеня 2013-га праз інтэрнэт.

Праграма «Ваш сябра — Беларусь» прапануе кітайскай аўдыторыі навіны і культурна-пазнавальны блок. Але галоўная ўвага надаецца міжнародным зносінам. У прыватнасці, Беларусі і КНР.

«Адкрыццё вяшчання на кітайскай мове — гэта яшчэ адзін вялікі крок па стварэнні іміджу нашай краіны за мяжой, — адзначыў Навум Гальпяровіч, галоўны дырэктар радыёстанцыі «Беларусь». — Наша мэта — расказаць пра краіну, яе гісторыю і культуру, гарады і славутыя мясціны, даць магчымасць дазнацца пра падзеі, якія ў ёй адбываюцца».

Перадачы рыхтуюць прафесіянальныя журналісты, выкладчыкі кітайскай мовы. Супрацоўнікі радыёстанцыі — творчыя, ініцыятыўныя людзі. Цяпер сярод іх — Лі Цзо, паэт, перакладчык, каліграф, выкладчык факультэта міжнародных зносін БДУ, а таксама выкладчыца кітайскай мовы мінскай гімназіі № 23 Ван Юйхун. Яны расказалі пра асаблівасці радыёстанцыі «Беларусь», праблемы, з якімі давялося сутыкнуцца падчас працы, падзяліліся планамі.

«Пазнаёміць сваіх суайчыннікаў з беларускай культурай, пісьменнікамі, народнай музыкай было маёй даўняй марай. Сёння мы нарэшце маем такую магчымасць. Адкрыццём вяшчання на кітайскай мове мы пабудавалі мост сяброўства паміж Рэспублікай Беларусь і Кітаем», — прызнаўся спадар Лі Цзо.

З песнямі на імпрэзе выступіла артыстка Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра Лідзія Кузьміцкая. Падрыхтавалі творчыя нумары і кітайскія студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

Ганна ПАЛЯКОВА

# Вясёлыя аўцюкоўцы

Свята гумару «Рэха Аўцюкоў» адбылося 1 красавіка ў Нацыянальным цэнтры мастацкай творчасці дзяцей і моладзі. Студэнты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў віталі аматараў гумару прыпеўкамі і танцамі. Удзел у імпрэзе ўзялі артысты, народна-мастацкія калектывы і пісьменнікі-гумарысты.

Уладзімір Ліпскі, галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка», старшыня праўлення Беларускага дзіцячага фонду, распачаў свята: «Усебеларускі фестываль гумару існуе з 1995 года і традыцыйна праводзіцца кожны год. У Малых Аўцюках з'явіўся Музей гумару і карчма «Ганарысты парсюк». Смех — дар Божы. Давайце карыстацца гэтым на поўную!» Уладзімір Сцяпанавіч уручыў дыпломы ўдзельнікам папярэдняга фестывалю — Тадэвушу Стружэцкаму, Пятру Адамовічу, Валянціне Доўнар, Анатолю Бутэвічу і Міколу Шабовічу.

Гумарыстычныя песні і прыпеўкі, інсцэніроўкі і тэатральныя мініяцюры — усё гэта гучала са сцэны ў выкананні калектыву з Валожынскага раёна «Дубінскія жартачкі» і народнага тэатра народнага гумару «Смехаўё». Але найбольшае задавальненне ў гледачоў выклікаў народны тэатр гумару «Вясёлыя аўцюкоўцы». Уладзімір Ермалаеў і Мікола Шабовіч пацешылі прысутных сваімі вершамі-пародыямі.

Маргарыта ГЕРАСІМЁНАК

## Прынятыя ў СПБ



**ПАРХОМЕНКА**
**Генадзь Максімавіч**

*Празаік*

Нарадзіўся 3 жніўня 1940 года ў г. Гомелі. Скончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў і Ваенна-палітычную акадэмію імя У. І. Леніна (Масква). Палкоўнік у адстаўцы. Супрацоўнічае з многімі перыядычнымі выданнямі. Аўтар кніг «Ля святой крыніцы» (2011), «Марыя і Фрыц» (2011), «З верай у трэцяе тысячагоддзе» (2011), «Лёс пакалення» (2012).



**ЛАТЫШКЕВІЧ**
**Маргарыта Юр'еўна**

*Паэтэса*

Нарадзілася 19 студзеня 1989 года ў г. Брэсце. Скончыла філалагічны факультэт і магістратуру БДУ (Мінск). Магістр філалагічных навук. Друкавалася ў часопісе «Маладосць», газеце «Літаратура і мастацтва». Аўтар кнігі вершаў «Пульс навальніц» (2012).



**ПАРХАМЧУК (ГАРЫНА)**
**Зоя Гар'еўна**

*Празаік*

Нарадзілася 9 жніўня 1960 года ў г. Гомелі. Скончыла Беларускі дзяржаўны політэхнічны інстытут (Мінск). Працуе дырэктарам гандлёвага прадпрыемства «Славный мир». Захапляецца аўтарскай песняй з 1983 года. З'яўляецца лаўрэатам розных фестываляў. Піша тэксты для вядомых спевакоў Беларусі, Украіны, Расіі. Яна — вядомая блюзавая спявачка, паэтэса і кампазітар. Аўтар рамана «Роман с небес» (2009).



**СЛІЎКО**
**Марына Аляксандраўна**

*Паэтэса*

Нарадзілася 30 чэрвеня 1962 года ў г. Ленінградзе. Скончыла Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Аркадзя Куляшова. Працуе ў РУП «Магілёўскае аддзяленне Беларускай чыгункі». Аўтар паэтычнага зборніка «Зорныя арэлі» (2010).

## Абрысы

Падвёдзены вынікі першага абласнога літаратурнага конкурсу імя Цёткі (Алаізы Пашкевіч), заснаванага аблвыканкамам і Гродзенскім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі. Да конкурсу, які праходзіў па двух намінацыях — «Проза» і «Паэзія», аўтары мусілі прадставіць рукапісы кніг. Так, лепшым празаічным творам названа кніга аповесцей і апавяданняў «Скрыжаванні» галоўнага рэдактара «Астравецкай праўды» Ніны Рыбік. У намінацыі «Паэзія» — два пераможцы: «Кут» карэспандэнта газеты «Перспектыва» (Гродна) Аляксандра Слашчова і зборнік «Не пускайце ў сэрца адзіноту» журналіста смаргонскай газеты «Светлы шлях» Алы Клемянок. Падарункам для пераможцаў стане выданне іх кніг па прадстаўленых на конкурс рукапісах.

Фарсі, хіндзі, эсперанта, старажытнагрэчаская, навагрэчаская і яшчэ тры дзясяткі моў, кожная са сваім адметным гучаннем. Гэта не пра Вавілонскую вежу. Гэта пра першы Мінскі фестываль моў, дзе віталіся па-літоўску, па-славацку і лёгка знаходзілі паразуменне. 31 сакавіка філалагічны факультэт БДУ гасцінна прымаў усіх, хто цікавіцца мовамі. Падчас 40-хвілінных прэзентацый (усяго іх было 6 блокаў) слухачы маглі дазнацца пра гісторыю, культуру пэўнай краіны, запомніць найбольш ужывальныя словы і ўразіцца нечаканымі магчымасцямі свайго артыкуляцыйнага апарату. Акрамя таго, гасцям былі прапанаваныя лекцыі, з якіх яны даведаліся, напрыклад, колькі ў 1920-я гады каштаваў адзін тэрмін і як Уладзімір Дубоўка падмануў вучоных-лінгвістаў. І добрая навіна для тых, хто не паспеў наведаць гэтае свята: фэст быў не апошнім, арганізатары — Антон Сомін і Ірына Пінхасік — разлічваюць на працяг.

Пысінскія чытанні прайшлі ў Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна. Супрацоўнікі аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры прадставілі чытачам літаратурную кампазіцыю і мультыпрэзентацыю пра жыццё і творчасць знакамітага ўраджэнца Прыдняпроўскага краю, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы. Вершы Аляксея Пысіна дэкламавалі юныя паэты з магілёўскага гарадскога літаратурнага аб'яднання «Святліца». Пра свае сустрэчы з Аляксеем Пысіным расказалі старшыня абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Дуктаў і празаік Віктар Арцем'еў.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ смуткуюць з прычыны смерці паэта БУБНАВА Віктара Анатольевіча і выказваюць шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць глыбокія спачуванні пісьменніцы Раісе Андрэеўне Баравіковай у сувязі з напаткаўшым яе вялікім горам — смерцю МАЦІ.

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда» і газета «Літаратура і мастацтва» глыбока смуткуюць і выказваюць шчырыя спачуванні пісьменніцы, былой супрацоўніцы Раісе Андрэеўне Баравіковай у сувязі з напаткаўшым яе горам — смерцю МАЦІ.

Рэдакцыя часопіса «Вясёлка» выказвае свае шчырыя спачуванні літаратурнаму рэдактару, вядомай пісьменніцы Раісе Андрэеўне Баравіковай у сувязі са смерцю МАЦІ Ніны Уладзіміраўны. Мы глыбока смуткуем разам з вамі.

# Красавала ў паэзіі жыта

У гэтыя дні я, магчыма, і не азірнуўся б яшчэ раз на такі багаты свой «лімаўскі шлях». Але цяпер акурат такі выпадак, што не асвяжыць сваю памяць проста не магу: 2 красавіка споўнілася 80 гадоў з дня нараджэння паэта, дзіцячага пісьменніка, празаіка, перакладчыка Віктара Шымука. Гэта калі называць усе ягоныя творчыя «рэгаліі», а ў 1974 годзе для ўсіх нас, лімаўцаў, ён стаў адказным сакратаром. Хто называў яго Віктарам Мікалаевічам, хто — Вікенціем Мікалаевічам (па пашпарце ён жа быў не Віктар, а Вікенцій). Некаторыя проста Віктарам.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Віктарам ён быў і для мяне, нягледзячы на значную розніцу ў гадах і па пасаду. Дарэчы, сам прапанаваў звяртацца да яго на «ты». Увогуле, на той час у лімаўскім калектыве гэта было звыклай з'явай. Рэдка хто з кім «выкаўся».

На маё хуткае збліжэнне з В. Шымуком, хутчэй за ўсё, паўплывала і тое, што яго на працу ў «ЛіМ», як і мяне, запрасіў галоўны рэдактар Хведар Жычка. У рэдакцыі ж, калі можна так сказаць, жычкаўскі прызыў трымаўся паміж сабой асабліва дружна. У процівагу тым, каму ні сам галоўны, ні ягоныя прыхільнікі не падабаліся. Хоць, калі ўжо быць да канца праўдзівым, то Віктар ці не з усімі хутка знайшоў агульную мову. Дзякуючы сваёй адкрытасці, таварыскасці.

Тады, «распри позабыв», мы знаходзілі нямала нагод, каб сабрацца разам усім калектывам. Спявалі, жартавалі... Правільней, спяваць спрабавалі многія. Пасапраўднаму ж гэта рабілі, бадай, толькі Віктар Шымук і Людміла Крушынская. Асабліва калі яны «браліся» за раманс «Гори, гори, моя звезда...» Тут ужо Шымуку, калі б пачуў ягонае выкананне, мог бы пазайздросціць сам Барыс Штокалаў, які, як мне здаецца, з'яўляўся найлепшым выканаўцам гэтага твора.

А яшчэ Віктар Шымук быў гэткі ж цудоўны апавядальнік. Дый пра каго заўгодна мог экспромтам скласці такі верш, што не смяяцца было нельга. Сваім тонкім гумарам аздабляў ён і нумары рэдакцыйных насценных газет, якія мы выпускалі з нагоды розных святаў. Любіў Віктар і расказваць цікавыя выпадкі са сваёй ранейшай працы. Журналісцкі ж стаж на час прыходу ў «ЛіМ» меў ужо немалы. Дый звязаў свой лёс з журналістыкай з шаснаццацігадовага ўзросту.



Пасля заканчэння васьмі класаў у 1949-м пачаў працаваць адказным сакратаром дзятлаўскай раённай газеты «За новую вёску». Адначасова вучыўся ў вячэрняй сярэдняй школе. У тым жа 1949 годзе выступіў з першымі вершамі ў газеце «Піянер Беларусі».

Цяга да друкаванага слова і вызначыла ягоны далейшы шлях: у 1951 годзе паступіў на аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. У 1957 г. заканчваў яго — праўда, завочна, бо пачаў працаваць у рэдакцыі рэспубліканскай газеты «Калгасная праўда» (цяперашняя «Белорусская нива»). Меў магчымасць шмат ездзіць па Беларусі, вывучаць жыццё.

Некаторыя сцвярджаюць, што такія пастаянныя нагрузкі не лепшым чынам сказваюцца на паэтычнай творчасці. У пэўнай ступені гэта сапраўды так. Але Віктар Шымук тым не менш не толькі не развітаўся з паэзіяй, а і пачаў пісаць для дзяцей. Дый першая ягоная кніга, якая выйшла ў 1960 годзе, адрасавана менавіта ім. Гэта паэма «Каля Броннай гары», у якой расказваецца пра юнага піянера-героя Колю Гойшыка.

Для хлопчыкаў і дзяўчынак напісаны і яго зборнікі вершаў «Мы вясне дапамагалі», «Дочкі сіняга Нёмана», «Марылі пра шчасце хлапчукі». Гэта калі казаць пра паэзію. Але пісьменнік плённа працаваў і ў празаічных жанрах. Пра што сведчаць такія яго кнігі, як «Сын каваля», «Коля Гойшык», што выйшлі ў некалі папулярнай серыі «З арлінага племені». А зборнік апавяданняў «Помняць пушчы і паляны», кнігі нарысаў «Леў Даватар», «Рэха «Аўроры»» — гэта ўжо «дарослая» літаратура, хоць, несумненна, сваёй патрыятычнай скіраванасцю яна цікавая чытачам любога ўзросту.

Увогуле, талент у Віктара Шымука быў шматгранны. Творца ўпэўнена адчуваў сябе ў галіне сатыры і гумару, рэгулярна публікаваўся ў часопісе «Вожык», выдаў зборнік сатырычных вершаў «Ад хаты да хаты». У кнігах жа паэзіі «Свіцязянскія хвалі», «Світанне», «Свята красавіцкіх бяроз» лірычны герой паўстае чалавекам, закаханым у зямную прыгажосць. Лепшыя вершы на дзіва лірычныя, прачулыя, сонечныя і сардэчныя, таму невыпадкова шмат якія з іх пакладзеныя на музыку такімі знакамітымі кампазітарамі, як Валерый Іваноў, Іван Кузняцоў, Кім Цесакоў, Мікалай Пятрэнка, Павел Шыдлоўскі і іншыя.

Творчы партрэт пісьменніка будзе няпоўным, калі не сказаць, што ён шмат перакладаў з балгарскай, латышскай, малдаўскай, армянскай, рускай, украінскай і іншых моў. У сваю чаргу, яго вершы пераўвасобленыя па-руску, па-украінску, па-туркменску.

У Віктара Шымука ёсць цудоўны верш «Жыта красуе». Здавалася б: што можна выказаць сваё, чым адметным парадаваць, калі тэма такая традыцыйная? Аказваецца, можна. Калі талент мець. Хоць у дадзеным выпадку аднаго таленту, бадай, мала. Да ўсяго трэба яшчэ ўмець глядзець на свет, на наваколле вачыма, поўнымі захаплення. Так глядзець, нібы ўсё гэта бачыш упершыню і яно гэтаксама ўпершыню раскрываецца перад табой сваім хараством і вабнасцю. А яшчэ, пры ўсім іншым, гэтае замілаванне прымушае цябе забывацца на ўзрост. Не так і важна, колькі табе па пашпарце. Галоўнае, наколькі можаш застацца ў душы паэтам. Нават не так істотна, пішаш ты ці не.

У вершы «Жыта красуе» — сапраўдная паэзія. Як быццам і проста ўсё, звычайна, а так кранальна:

*Жыта красуе,*
*Жыта красуе.*
*Я гэта бачу,*
*Я гэта чую.*

*Жыта шугае*
*У летнюю просінь,*
*Сіл набірае*
*Зелень калоссяў.*

Жыта красавала і ў паэзіі В. Шымука. У тым сэнсе, што ў ёй пры ўважлівым чытанні можна напаткаць нямала таго, што радуе сваёй свежасцю, нерушаласцю, непрыдуманасцю, бо ўзята з самой паўсядзённасці, і гэтая паўсядзённасць адлюстроўваецца ў яе першароднай існасці. У прозе ж ён заставаўся рэалістам, паказваў жыццё такім, якое яно ёсць, але пры гэтым не забываў, што ў ім нельга без нейкага ідэалу. Неабавязкова яго трэба дасягнуць, але да яго неабходна імкнуцца. Ва ўсякім разе, станавіцца лепшым, дабрэйшым.

На жаль, жыццёвы шлях Віктара Шымука быў не такім і доўгім: не стала яго 18 жніўня 1998 года.

# Сур'ёзна пра камічнае

У 2010 годзе выйшаў першы ў беларускай лексікаграфічнай практыцы «Слоўнік пра камічнае: мовазнаўчы аспект» прафесара Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. А. Куляшова В. Рагаўцова. Амаль паўтара дзясятка гадоў навукоўца плённа даследуе моўныя сродкі стварэння камічнага эфекту ў беларускай драматургіі.

**Браніслаў ЗУБКОЎСКІ**

І вось новая праца — манаграфія «Вербальныя сродкі камічнага ў беларускай драматургіі: канец XVI — пачатак XX стагоддзя», якая выйшла напрыканцы мінулага года ў выдавецтве Магілёўскага ўніверсітэта. У манаграфіі упершыню ў беларускім мовазнаўстве зроблена спроба найбольш поўна выявіць і сістэмна прааналізаваць сродкі вербальнага выражэння камічнага ў розных жанрах беларускай драматургіі. Аўтар ахоплівае перыяд ад яе пачатковага этапу прафесійнага развіцця (канец XVI ст.) па 20-я гады XX ст. (інтэрмедыі, батлейкавыя сцэнкі, п'есы К. Марашэўскага, М. Цяцерскага, народныя драмы, драматургічныя творы В. Дуніна-Марцінкевіча, К. Каганца, К. Вясёлага, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Гарэцкага, Ф. Аляхновіча, Л. Родзевіча, У. Галубка).

Манаграфія дае падставы меркаваць пра ўжывальнасць тых або іншых вербальных сродкаў на розных этапах развіцця беларускай драматургіі. Так, у інтэрмедыях, якія ў Беларусі з'явіліся ў канцы XVI ст. і былі асноўным жанрам беларускай драматургіі XVII ст., шырока ўжываліся каламбуры (паранамазійныя, фразеалагічныя, полісемантычныя) і іранізмы.

З неспецыялізаваных сродкаў у інтэрмедыях аднымі з найбольш пашыраных з'яўляюцца алагізмы. Так, у інтэрмедыі «Чорт Асмалейка» Селянін раіць Чорту, як вырашыць яшчэ адну праблему з яго здароўем (выгнаць з галавы цвыркуноў): «Свердлам лоб пракруціці, зараз паўцекаюць...» У дадзеным выпадку з дапамогай алагізму выяўляецца здзеклівае стаўленне Селяніна да Чорта.

У манаграфічным даследаванні падкрэслены асаблівасці ўжывання вербальных сродкаў камічнага ў новай беларускай прафесійнай драматургіі (сярэдзіна XIX — пачатак XX ст). Напрыклад, В. Дунін-Марцінкевіч упершыню ў беларускай драматургіі як сродак камічнай характарыстыкі персанажаў пачаў выкарыстоўваць мянушкі, прозвішчы, канцылярызмы, а таксама фразеалагічныя алюзіі, а Янка Купала — ідыялектныя клішэ ў ролі звыротка, таўталагізмы.

Як вынікае з манаграфіі, побач з «чыстымі» вербальнымі сродкамі стварэння камічнага ў драматургічных творах сустракаюцца таксама сінкрэтычныя, у якіх адначасова сумяшчаецца функцыя двух сродкаў (напрыклад, розных тропаў). Яны ў параўнанні з несінкрэтычнымі больш выразныя і камічна насычаныя.

Для наймення слоў і выразаў, якія маюць адметную форму або ярка выражаную экспрэсіўную афарбоўку і часта ўжываюцца ў маўленні персанажаў, у манаграфіі паслядоўна выкарыстоўваецца тэрмін «ідыялектныя клішэ», на нашу думку, больш дакладны, чым выразы тыпу «характарыстычныя», «любімыя / улюбёныя», «актыўнаўжывальныя», «выразы-фаварыты», «стылістычныя пашпарты» і г. д.).

Заслугоўвае ўвагі вылучэнне як асобнай разнавіднасці парэмійных каламбураў, якія традыцыйна адносяць да фразеалогіі ў шырокім яе разуменні. Як вядома, прыказкі (і гэта пераканаўча паказана ў дапаможніку прафесара І. Лепешава «Парэміялогія як асобны раздзел мовазнаўства», Гродна, 2006) — адмысловыя адзінкі мовы з уласцівымі ім структурна-семантычнымі асаблівасцямі, што адрозніває іх ад уласна фразеалагізмаў.

З наяўных беларускамоўных тэрмінаў-дублетаў у слоўніку правамерна аддаецца перавага тым, якія адпавядаюць асаблівасцям беларускага тэрмінаўтварэння і ўсталяваліся або ўсталёўваюцца ў сучаснай лінгвістычнай і лінгваметадычнай літаратуры.




*Вербальныя сродкі камічнага ў беларускай драматургіі: канец XVI — пачатак XX стагоддзя: манаграфія / В. І. Рагаўцоў. — Магілёў: МДУ, 2012. — 257, [1] с.*

Для больш зручнага карыстання манаграфічным даследаваннем у канцы яго ёсць два дадаткі: паказальнік прааналізаваных твораў (крыніцы фактычнага матэрыялу) і паказальнік вербальных сродкаў камічнага, ужытых у прааналізаваных творах. Другі дадатак дае магчымасць лёгка знайсці пэўны моўны сродак, ужыты ў тым або іншым драматургічным творы для стварэння камізму.

Манаграфія В. Рагаўцова сведчыць, што яе аўтар здольны кваліфікавана аналізаваць вербальныя сродкі камічнага, прыводзячы дзеля гэтага неабходныя аргументы. Яна будзе карыснай не толькі студэнтам філалагічных спецыяльнасцей ВНУ, але і настаўнікам-беларусазнаўцам, паколькі аналізуюцца класічныя творы айчыннай драматургіі, прадугледжаныя для абавязковага вывучэння ў школе.

Думаецца, манаграфія прыйдзецца даспадобы пісьменнікам-гумарыстам, драматургам, бо ёсць магчымасць «падвучыцца», якія сродкі можна выкарыстаць для стварэння камічных сітуацый або вобразаў.

# «Балюча прарастаюць крылы»



Бадай, ніводны паэтычны зборнік не бяру ў рукі з такім хваляваннем, як той, што для аўтара з'яўляецца першым. Так было, калі яшчэ ў мае школьныя і студэнцкія гады выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпускала іх у серыі «Першая кніга паэта», і пазней, калі яе назва трансфармавалася ў «Дэбют». Шкада толькі, што цяпер такія неабходныя для маладых літаратараў серыі перасталі існаваць (і гэта не столькі віна выдавецтва, колькі, хутчэй за ўсё, кніжнага гандлю і бібліятэк, якія не жадаюць набываць падобнага кшталту зборнікі, як і паэзію ўвогуле з-за яе незапатрабаванасці пакупнікамі і чытачамі — а зрэшты, хіба было калі, што вершы карысталіся масавым попытам?)

**Анатоль ЗЭКАЎ**

І ўсё ж першыя кнігі, няхай сабе і нічым не пазначаныя, выходзяць, бо на літаратурнай ніве штогод прабіваюцца і ідуць у рост новыя паэтычныя парасткі. І мне па-ранейшаму цікава, кажучы словамі Янкі Купалы, «а хто там ідзе ў агромністай такой грамадзе». Бо як-ніяк, а кожны з аўтараў нясе ў літаратуру сваю адметнасць і непаўторнасць, і ад кожнага, хто ступіў на парог Парнаса, у думках зазіраючы на яго вяршыню, залежыць у канчатковым выніку лёс усёй нашай нацыянальнай паэзіі, а можа, і літаратуры ў цэлым.

Менавіта яшчэ і з гэтых пазіцый чытаў я рукапіс, а потым і сам паэтычны зборнік Алены Бабурэвіч «Сусвет вымяраю табой», які выйшаў на пачатку гэтага года ў серыі «Мінскія маладыя галасы». Тым больш што імя аўтаркі для мяне не новае: наша асабістае знаёмства адбылося яшчэ ў 1995 годзе, калі зусім юная навучэнка Салігорскага педкаледжа сярод многіх іншых маладых паэтаў Міншчыны брала ўдзел у абласным творчым семінары, які ладзіла на Лагойшчыне, ды і дагэтуль працягвае ладзіць, абласная бібліятэка імя А. С. Пушкіна на чале з яе нястомным дырэктарам Наталляй Чуевай. Тады якраз на юную паэтэсу і звярнуў увагу Алесь Пісьмянкоў, з якім мы разам выступалі ў ролі настаўнікаў-рэцэнзентаў: маўляў, з гэтай дзяўчыны будзе толк. Неўзабаве вершы А. Бабурэвіч з'явіліся ў «Чырвонай змене», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», часопісах «Першацвет» і «Полымя». А потым... Потым яна нечакана знікла з паэтычных абсягаў. Каб, праўда, праз дзясятак гадоў зноў заявіць пра сябе вершамі ў «ЛіМе», казкамі ў часопісе «Вясёлка» і калектыўных зборніках «Блакітная кніга» і «Залаты Талер», паэтычнай падборкай ва ўкладзенай Міхасём Башлаковым кнізе «Мы — маладыя».

І вось — першы ўласны зборнік лірыкі «Сусвет вымяраю табой», умоўна падзелены на два раздзелы: «Гарадская акварэль» і «Я ведаю цябе на памяць» (адрозныя хіба тым, што ў другім раздзеле пераважаюць вершы пра каханне, хоць сям-там яны прыгожа аздабляюць і першы). Як сцвярджаецца ў анатацыі, «лірычная гераіня кнігі Алены Бабурэвіч — няўрымслівая і апантаная, рамантычна-ўзнёслая і адначасова прыземленая, бо і праз гады марыць вярнуцца ў маленства, «дзе бусел кружыў па-над дахам і сонца глядзела ў акенца»». Апошняя цытата, дарэчы, — з яе верша «Краіна маленства», якім і адкрываецца зборнік «Сусвет вымяраю табой». І з гэтай краіны паэтэса не эмігрыравала назаўсёды, яна штораз вяртаецца ў яе зноў і зноў, бо і яе «Гарадская акварэль» пазначана пераважна фарбамі не сталічнага Мінска, дзе жыве цяпер, а роднага Слуцка, дзе нарадзілася і вырасла: «Паверх дзяявяты. Сны ўсё тыя ж... // А сны ўсё цягнуць да зямлі. // Мне сніцца — промні маладыя // Расу фарбуюць». Або такі кароткі верш, які хочацца прывесці цалкам:

*Сумна... Расчыняеш акно.*
*Што ні рабі — усё адно*
*Не хапае паветра,*
*Ізноў імкнешся за ветрам.*
*Самота прытуліцца.*
*Дыхаюць вуліцы...*
*Хочаш дадому...*

Згадкамі пра колішняе прасякнуты і вершы «Не жылі», «...Каля патухлага каміна...», «Успамін», «...Разварушыць гняздо ўспамінаў...». І нават калі паэтэса бачыць, як «срэбраныя кропелькі // коцяцца ў дзіцячую далоньку», ёй зноў-такі прыгадваецца, «як у маленстве // я падобная была на сына». А зрэшты, што я зацыкліўся на гэтым: усе нашы вершы і ёсць успаміны — пакладзеныя на паперу словы, думкі, хваляванні, сумненні, спадзяванні (і такога кшталту рад можна доўжыць бясконца) — усё гэта адтуль, з мінулага, з пражытага і перажытага: «Так проста, здаецца — // Бяры і пішы...» Аднак гэта і сапраўды толькі здаецца, бо здараецца, што «не граюць музыкі, // не чуецца звон...» І паэтэса разумее, што не ўсё «так проста». Пэўна, таму і з'яўляецца такое адвочнае памкненне:

*Хачу я пазычыць*
*Хоць некалькі слоў*
*У снега, у неба,*
*У сонца, у сноў.*
*Мне многа не трэба,*
*Мне б некалькі слоў.*

І гэта, калі шчыра, зусім не вымольванне атрымаць нешта задарма ці, як кажуць, на дурніцу, а хутчэй — жаданне спасцігнуць паболей таямніц свету і Сусвету, пазнаць іх ва ўсёй шматаблічнасці фарбаў і потым паэтычным словам данесці да чытача, узварушыць яго да донейка душы і прымусіць самога і пра многае ўсур'ёз задумацца. Сцвярджаючы, што «людзі так падобныя на птушак // у празе пакарыць сівое неба», паэтэса то шчыра радуецца: «З небам я палітраю адною // Зноў малюю гарадскую акварэль», то захапляецца: «У люстры мокрага асфальту // Адбітак неба — нібы вочы», то просіць каханага: «Ты памаўчы! Паслухай неба...» І тут жа звяртаецца да яго і адначасова да кожнага з нас:

*Сваім жыццём зрабіце свет прыгожым.*
*Заўсёды верце — шчасце не міне.*
*Жывіце — памажы Вам Божа! —*
*Са мной ці без мяне.*

А радок «Я фарбам надаю пяшчоту» гучыць як дэвіз, як жыццёвае крэда паэтэсы. Ці не таму яна так шкадуе, што «снежань амаль без снегу. // Студзень амаль без марозу», і тут жа як бы падводзіць вынік: «Прырода адчувае няўпэўненасць. // Што ж гаварыць пра мяне?», бо і насамрэч, як у прыродзе, так і «ў жыцці стала ўсё // перакручана // і змагацца з сабой // надакучыла».

Аднак гэта ніякім чынам не азначае, што лірычная гераіня А. Бабурэвіч бязвольна апускае рукі, здаецца на міласць непрадказальнага лёсу. Ні ў якім разе! Яна па-ранейшаму жыве «з чаканнем радасці на твары» і ўсёй сваёй істотай прагне «адкінуць смецце, што ёсць сілы». І нават калі бачыцца «ў сне // усё толькі чорным або белым», прызнаецца:

*Малюю я ружовы сад*
*У пырсках сіняга натхнення.*
*Не азіраюся назад —*
*Шукаю ўперадзе збаўлення.*

І няхай сабе «па начах ізноў не спіцца», тым не менш яна аптымістычна заяўляе: «Трэба рухацца далей». Рухацца з заўсёдным адчуваннем удзячнасці Богу «за выпадкова знойдзенае зерне, // за магутнасць нястомных крылаў, // за магчымасць лятаць у аблоках...» Сказана гэта, праўда, ад імя голуба, які «пастукаў у вокны», але хіба ў чалавека няма такога памкнення? У яго ж таксама, паводле шчырага прызнання аўтара кнігі «Сусвет вымяраю табой» Алены Бабурэвіч, «балюча прарастаюць крылы». Ды і калі папраўдзе, то ці можа быць сапраўднае, паўнавартаснае жыццё без клопатаў, хваляванняў, трывог і болю?

# Жыццё як млён

Напрыканцы мінулага года ў мінскім выдавецтве «Кнігазбор» свет убачыла паэтычная кніга Ніны Шклярavай «Млён», у якой аўтарка сабрала новыя і ўжо знаёмыя чытачам вершы, паэмы, балады.

**Алесь БАРАНОЎСКІ**

Перш за ўсё, звяртае на сябе ўвагу назва зборніка. Так, «млён» — гэта ручка, пры дапамозе якой круцяцца жорны, а «мліва», як адзначана ў кнізе, — зерне для памолу і сама мука. Відавочна, што аўтарская алегорыя не адназначная, бо мае на ўвазе і паэзію, дзе творца прыводзіць у рух жорны натхнення, і ўласна жыццё, пра якое піша Н. Шклярава, дзе часта і сама лірычная гераіня выконвае ролю «зерня», якое няўмольна трапляе ў вір падзей, абставін, рознага кшталту калізій.

Не раз зазначалася, што для паэзіі Ніны Шклярavай характэрна спавядальнасць. З гранічнай шчырасцю лірычная гераіня распавядае чытачам пра розныя падзеі свайго жыцця, як перад самымі блізкімі сябрамі, раскрывае таямніцы жаночай долі. Вось і ў новай кнізе паэтэса не здрадзіла сабе. Прага шчырасці, духоўнага свята — галоўныя ў фарміраванні творчай асобы Ніны Шклярavай:

*Дачка я сялянкі, мой нораў — сялянскі,*
*З дзяцінства ў пракудах упартай была.*
*Калі ж частавалі лазоваю ласкай —*
*Мой крык у другім канцы чулі сяла.*
*Я стала дарослай — дарогі каменне,*
*Здзіраючы скуру, каціці, зато*
*Маўчу я цяпер, не згінаю калені...*
*Маёй перамогі не бачыць ніхто!*

Лірычная гераіня паэтэсы не саромеецца сваёй вясковасці. Наадварот, родныя мясціны жывяць душу творцы: «Дзе ты, дзе ты, мая вёска? / На зямным вялізным шары / Сярод квецені пялёсткаў / Загубілася ў абшары». Аднак было б памылковым меркаваць, што мастацкі свет у вершах Ніны Шклярavай зводзіцца толькі да роднай сэрцу Пракопаўкі. Пры ўсёй сваёй знітаванасці з роднымі каранямі, нават фальклорнасці многіх твораў, Ніну Шклярaву нельга назваць безапеляцыйна вясковай паэтэсай. Тэматыка яе вершаў выходзіць за межы правінцыяльнага кругагляду. Дыяпазон праблемнага поля зборніка «Млён» надзвычай шырокі. Лірычная гераіня многіх вершаў Н. Шклярavай задаецца пытаннямі: «Чаму нямашака на свеце / Ніколі згоды між людзьмі?», «Хто заходзіцца плачам, / Ад болю канае?», «Чаму на ніве нашай недарод? / Чаго такі лядашчы умалот?», «Калі свайго прарока назавём?», «А што мой выбера нашчадак / І дзе саўе сваё гняздо?»... Аўтарка спрабуе разважаць над пытаннямі, многія з якіх да сёння засталіся рытарычнымі.

Варта канстатаваць, што ў зборніку «Млён» аўтарскае «Я» ў пэўным сэнсе згубіла свае відавочныя абрысы — стала больш абагульненым вобразам. Гэта ўжо не дзяўчынка і не жанчына (як у папярэдніх кнігах) і нават не сталы філосаф (хаця філасофская лірыка дамінуе ў зборніку). Гэта вобраз узнёслага бадзягілетуценніка, які ведае цану жыццю і пачуццям:

*Я — бадзяга Сусвету,*
*Па чорнаму мору начы*
*Адплываю*
*На хвалях аблокаў у неба.*

Свет мар — адзіны магчымы спосаб для лірычнай гераіні рэканструяваць уласны лёс, вярнуць страчаную маладосць, разабрацца ў сабе: «У цянётах памяці блукаю, / Ды шукаю я ўчарашні дзень...»

Вобразы неба, Сусвету, вечнасці, шляху — скразныя ў зборніку аўтаркі. І калі апошні ў папярэдніх кнігах паэтэсы атаясамліваўся са знаходжаннем чалавека на зямлі («А пакуль жыццё маё — іржышча...» і інш.), то ў зборніку «Млён» ён увасабляе касмічнае, пазацялеснае, Боскае існаванне:

*Зорная ноч...*
*Млечны Шлях адмысловы*
*Ночы на плечы лажыцца*
*Абновай.*

Падобнага кшталту духоўнае пераўвасабленне не выпадковае. Паэтэса наўмысна супрацьпастаўляе душу і цела, зямлю і неба, бо толькі на такім кантрасце, на думку аўтаркі, нараджаецца паэзія.

У кантэксце вышэйсказанага падаецца цалкам натуральнай аўтарская інтэрпрэтацыя агульнавядомага «На пачатку было — Слова. І Слова было ў Бога. І Слова было Бог»: «Дык вось яно — першае слова! / Яму адгукнулася слаўна / Мая беларуская мова, / Сусветная мова славянаў».

Біблейскія матывы не навіна для паэзіі Н. Шклярavай. Але толькі ў апошнім зборніку яны загучалі надзвычай жыва і надзённа. Можа, таму, што іх канцэнтрацыя ў параўнанні з іншага кшталту вершамі павялічылася, а можа, таму, што лірычная гераіня часцей пачынае задумвацца над лёсавызначальнымі падзеямі ўласнага жыцця, над місіяй паэта на зямлі:

*Там, на Гасподніх слядах мы сустрэнемся з вамі,*
*Тыя, каго пуцявіны ў дарогу пазвалі.*
*Словам малітвы сустрэнуць усіх нас анёлы,*
*І пасвятлее ад крылаў бялюткіх наўкола.*

*Потым навучаць пісьмёны чытаць небасхілу,*
*І за плячамі прарэжуцца ў кожнага крылы,*
*Рэхам адклікнецца Шляху Птушынага далеч,*
*На гарызонце — аўтографаў нашых скрыжалі.*

Такім чынам, можна ўпэўнена гаварыць, што кніга «Млён» — новы і надзвычай цікавы віток у творчай біяграфіі Ніны Шклярavай.

**Мар'ян ДУКСА**



# Заснежаныя ягады юбіляра

Цяпер, праз дзесяцігоддзі, згадваецца многае: і першае знаёмства ў аддзеле паэзіі часопіса «Маладосць» пад бацькоўскім прыглядам шаноўнага Міколы Аўрамчыка, і сонечныя майскія дні Свіцязянскага творчага семінара... Але спачатку, зразумела, былі вершы: па традыцыі майго пасляваеннага пакалення — найперш у «Чырвонай змене» і «Маладосці», затым, з усталяваннем пэўных жыццёвых прынцыпаў, — у старэйшым нашым часопісе «Полымя». Толькі пасля такога грунтоўнага збліжэння з чытачамі мае сябры шукалі дарогу ў выдавецтва і, скажу шчыра, амаль усе яны мелі вялікі поспех у літаратурнай грамадскасці. Менавіта так усё атрымалася і ў Мар'яна Дуксы.

За час творчай працы паэт выдаў добры дзясятак адмысловых зборнікаў вершаў для дарослых і дзяцей: «Спатканне», «Крокі», «Станцыя», «Прыгаршчы суніц», «Зялёны акварыум», «Світаюць сосны» і многія іншыя. Аўтара хвалююць праблемы дабра і зла, маральна-духоўныя каштоўнасці чалавека, паэзія кахання і прыроды, хрысціянскія асновы веры і любові. Паэзія Мар'яна Дуксы надзвычай вобразная і метафарычная, пра што сведчыць, напрыклад, зборнік «Заснежаныя ягады». Тады, яшчэ ў 1990 годзе, атрымліваючы за яго Літаратурную прэмію імя Аркадзя Куляшова, паэт нават не здагадваўся, што ўласны 70-гадовы юбілей на згоне зімы будзе сустракаць у заваленай да стрэх вёсцы Солы на Смаргоншчыне, дзе пасля філфака працаваў настаўнікам, — зрэшты, тут ён жыве і цяпер, у сваім багатым на поспехі і засмучэнні сталым узросце. Але як чалавек лясны Мар'ян Дукса добра ведае, што ягады, якія перазімавалі пад снегам, набываюць асабліва прыемны водар і смак.

**Віктар ГАРДЗЕЙ**

* * *

*Снягоў і сцюжы скончылася звада.*
*Наўкруг дыханне сонца і святла.*
*Крутой зімы пагрозлівая ўлада*
*вясне і поўдню ўрэшце перайшла.*
*Пры ёй з імпэтам цёрлі вушы людзі*
*і свет жывёльны адчуваў прыгон.*
*І вось, здаецца, гэтага не будзе.*
*Прапаў паўночны вецер — гегемон.*
*«Для смутку зараз ні адной прычыны», —*
*псіхолаг кажа, па душы эксперт.*
*Навокал ладзяць птушкі дабрачынны*
*вялікі кругласутачны канцэрт.*
*Каля дарогі — свята першацвету.*
*Трава на горку лезе неўпрыкмет.*
*паціху выпаўзаюць з інтэрнэту*
*жывыя душы на пявучы свет.*

* * *

*Свайго жыцця ты, можа, і прараб,*
*галодным не жадаеш быць і босым.*
*Напэўна, ты і гаспадар, і раб*
*у вузкаватых лабірынтах лёсу.*
*Не трапячыся ўсё ж і не шалей,*
*калі бар'ер сустрэнецца варожы.*
*Нікуды не прасунешся далей*
*высокай двухбаковай агарожы.*
*Няплёныя яны — твая журба,*
*сярдзітыя ці кіслыя грымасы.*
*Пасправаваўшы моц свайго ілба,*
*ты не збяжы з наканаванай трасы.*
*Каб след пакінуць і людзей любіць,*
*каб ад сябе пасляць пявучы пошчак —*
*на гэтае павінна ўсё ж хапіць*
*адведзенай табе дарожнай плошчы.*

* * *

*Ах, колькі ў цябе кожны дзень утрапення —*
*шуміш, вар'яцееш, людскі акіян.*
*Ты топіш з усмешкаю кволых у пене —*
*вясёлы гуляка, задорны буян.*
*Чаму табе не падабаецца ціша?*
*Чаму супакой не жадаеш любіць?*
*Ты сонца на хвалях зусім не калышаш,*
*шпурляеш — на друзачкі хочаш разбіць.*
*Глытаеш усё, што табе не належыць,*
*скідаеш свае і чужыя сцягі.*
*Прызнаць упіраешся ўласныя межы*
*і ўсё заліваеш свае берагі…*

* * *

*Святому месцу нельга быць пустым…*
*І тут даўно — ні колаў, ні палоззяў.*
*Ёй застаецца пагадзіцца з тым —*
*лясной, людзьмі пакінутай дарозе.*
*Не ўдасца ўратавацца ёй ніяк.*
*Па дажджавой калдобіне і снезе*
*каторы год настырны маладняк*
*з усіх бакоў бесцырымонна лезе.*
*Ну як такое, лес, ты дапусціў,*
*пераступіў ты нашу дружбу недзе…*
*Дарожкай гэтай я ў касцёл хадзіў*
*альбо ляцеў тут на веласіпедзе.*
*Нырнула ў мох дарожная зямля*
*і ў ягаднік, таксама наступальны…*
*Звісае з лапушыстага галля*
*мой успамін, крыху сентыментальны.*

* * *

*Параскідала што вас так па свеце,*
*браты мае, вандроўніца-сястра?*
*І вас ніяк-ніяк усходні вецер*
*не адпусціў да роднага двара.*
*Хто заказаў вам з лёсам паядынкі,*
*паабяцаў нікчэмны магарыч?*
*Ферганскія і вяцкія абдымкі*
*былі мацней, чым нават матчын кліч.*
*І вас не знойдзеш у айчынным спісе.*
*Са сцежак родных выдзьмутыя вы.*
*Пакорна на чужыне засталіся.*
*Каго няма, а хто яшчэ жывы…*
*Адвольна тасаваліся народы —*
*намер быў нейкі нешта вырашаць…*
*Людзей, як лесу розныя пароды,*
*хацелася камусь перамяшаць.*
*Прыходзіць толькі зараз азарэнне,*
*чаму наш край так абязлюдзець мог.*
*Вы гляньце, як вясковае карэнне*
*самотна дасыхае ля дарог.*

* * *

*Калі сябе адчуем мудрацамі,*
*штосьці зразумее розум наш увішны —*
*усім хвала нам: не дрэмалі самі…*
*Ды што змаглі б мы, каб не Ты, Ўсявышні.*
*Зрок сакаліную ці меў бы ўвагу,*
*ці даляцеў бы кожны гук да вуха,*
*каб не паслаў Ты спасціжэння прагу,*
*якую даў нам праз Святога Духа.*
*Хоць плён дарылі першыя спакусы*
*усё спазнаць у пачатковай школе…*
*Ды ўсе і акадэміі, і курсы —*
*усё Твой Провід і Твая тут воля.*
*І свет Табой пранізаны, абняты,*
*ён проста як бяздонная крыніца.*
*А мы — як тыя дзеці-немаўляты,*
*што смокчуць з Тваёй ласкі таямніцы.*

* * *

Хрысціне Лялько

*Усё праходзіць.*
*Лепшы час мінае.*
*Як быццам апускаешся ў нішто ты.*
*Але ёсць Ты.*
*І гэта ўсё мяняе.*
*Улада парушаецца самоты.*
*Сыходзіць дзень.*
*Вісіць пара згасання.*
*І кліча ноч*
*у свой маўклівы церам.*
*Але ёсць Ты*
*у самым цэнтры ззяння,*
*куды ніколі*
*не прыходзіць цемра.*
*У нікуды*
*цябе праводзяць дзверы.*
*Сплывае рэхам*
*голас чалавечы.*
*Але ёсць Ты,*
*каб мы на чоўне веры*
*зноў веславалі*
*да святла сустрэчы.*

* * *

*І будуць звягі*
*вырашацца боем,*
*уздыме меч*
*нядаўні пабрацім,*
*пакуль мой боль*
*не стане вашым болем,*
*пакуль ваш боль*
*не зробіцца маім.*
*І будзе ў свеце*
*мала аднаверцаў,*
*не злучыць*
*салідарнасці шаша,*
*пакуль дрымучы сон*
*у вашым сэрцы,*
*пакуль мая*
*зачынена душа.*
*Датуль нас будуць*
*дакучаць пагрозы,*
*нам не пазбегнуць*
*бедаў і няўдач,*
*пакуль мне вашы*
*не памогуць слёзы,*
*пакуль мой вас*
*не падтрымае плач.*

* * *

*Калі душа ў самотны дзень адчуе*
*выразны покліч блізкай сіняві,*
*што на зямлі апошні раз начуе —*
*тады ўжо ў сэрцы гонар нулявы.*
*Жаданняў жар у нейкі міг астыне,*
*і ўвесь парыў аслабне веснавы,*
*і згорнуцца фантазіі пустыя,*
*бо запануе гонар нулявы.*
*І высілкаў людскіх вялікі гоман*
*сплыве кудысьці, як вячэрні дым.*
*З душою пасябруе ўрэшце гонар,*
*сябе адчуўшы раптам нулявым.*

**Святлана БАСУМАТРАВА**



## Прабабчына слова

*Паэзія наша*
*Не звонку завезена.*
*Яе, як душу,*
*Не скарыць і не знішчыць.*
*Пульсуе ў радках маіх*
*Хваляй Бярэзіна,*
*І плешчацца Ясельда*
*Ў вершах Янішчыц.*
*Прабабчына слова маё*
*Старажытнае,*
*Ты кветачка ў лузе,*
*Ты ў садзе саловачка.*
*Хваёвае наша,*
*Мядовае, жытняе,*
*Жыві,*
*Беларускае роднае словачка!*

***

*Расцвітаюць сады*
*Над Бабруйшчынай мілай,*
*У духмяным тумане*
*Дамы і двары.*
*Гэтак звонка спявала,*
*Гэтак палка любіла,*
*Ды не вернеш цяпер*
*Той чароўнай пары.*
*Як хацелася жыць,*
*Танцаваць і смяяцца,*
*І з пяшчотай увесь*
*Белы свет абдымаць.*
*Нібы павадак весні,*
*Прашугала юнацтва,*
*І нікому не дадзена*
*Час супыняць.*
*Толькі памяці нашай*
*Няма адпачынку,*
*І калі ў наваколлі*
*Квітнеюць сады,*
*Адчуваю ў сабе я*
*Гарэзу-дзяўчынку,*
*Чую сэрцам сваім*
*Яе смех малады.*

## Славутаму земляку

Міколу Аўрамчыку

*Помняць дрэвы старыя*
*Малога Міколку,*
*Помняць Плёсы рудыя,*
*Скразныя вятры.*
*Тут Вы бегалі ў Вашу*
*Вясковую школку,*
*Пеклі бульбу ў начным*
*На вясёлым кастры.*
*Не скарыўся засіллю*
*Фашысцкай навалы*
*(Колькі пройдзена горкіх*
*І слаўных дарог)*
*Мой зямляк-беларус,*
*Цягавіты,*
*Трывалы.*
*Ён вайну перажыў*
*І ў вайне перамог.*
*Прыкіпела я сэрцам*
*Да роднае мовы*
*І паслала Вам вершы*
*Свае ў «Маладосць».*
*Вашы добрыя, мудрыя,*
*Шчырыя словы*
*Азарылі надзеяй*
*Маю маладосць.*
*Белы воблак плыве,*
*Як рахманы баранчык.*
*Коціць хвалі Бярэзіна*
*Вольна ў вяках.*
*Знакамітае прозвішча Ваша —*
*Аўрамчык —*
*Нездарма Вы бабруйскім*
*Назвалі ў радках.*
*Ціха звоняць званы*
*Над царквой у Цялушы*
*І на купале промень*
*Урачыста гарыць…*
*У пісьменнікаў, знаю,*
*Бяссмертныя душы,*
*Будуць вечна з людзьмі*
*Праз радкі гаварыць.*

***

*Пра нешта шэпча ветрык*
*Сам сабе.*
*А дзень вясновы*
*Не такі кароценькі.*
*Раскрыліся пупышкі*
*На вярбе,*
*Іх у народзе*
*Называюць «коцікі».*
*Калісьці*
*Сустракаліся з табой*
*Над чыстымі*
*Бярэзінскімі хвалямі:*
*То пад зялёнай*
*Ніцаю вярбой,*
*То пад рабін*
*Чырвонымі каралямі.*
*Усё было —*
*І радасць, і журба.*
*Я зведала пачуццяў*
*Поўнай мераю.*
*…У слоіку свянцоная вярба*
*Надзеяю маёй,*
*Любоўю, вераю.*



Алесь МАКОЎСКІ

# Першае спатканне

## *Урывак з рамана «Развітальнае рэха»*

...Неўзабаве адбылася сустрэча, якая перайначыла мой лёс, расквеціла яго і мяне прымусіла ўсур'ёз і надоўга задумацца над сэнсам халасцяцкага існавання. І ўсё дзякуючы калегу па працы, адчайнаму летуценніку і яшчэ аднаму непапраўнаму рамантыку Уладзіку Церыну. Паэт у душы (ён, дарэчы, пісаў вершы для сябе), абсалютна абыякавы да таго, што называецца «бытам», быў старэйшы за мяне на два гады і таксама жыў у рабочым інтэрнаце, суседнім з маім. Хлопец валодаў незвычайнай здольнасцю знаёміцца з людзьмі, асабліва з дзяўчатамі. Падлабуньваўся да іх, уціраўся ў давер, на першы погляд, даволі проста. Падыходзіў на вуліцы, скажам, на прыпынку, да дзяўчыны, якая кінулася ў вочы, папраўляў круглыя акуляры і пачынаў:

— Здрасце... Гэта нічога, што я з вамі павітаўся? Ну, вось і цудоўна! А то, ведаеце, часам з чалавекам павітаешся, а ён глядзіць на цябе як на ёлупня. Маўляў, адкуль ты на маю галаву зваліўся?! А што тут кепскага? Вось скажыце... Не, вы скажыце... Ну, павіталіся мы з вамі... Дарэчы, мяне клічуць Уладзікам. Як вас — я не пытаю, усё роўна праўды не скажаце. Вось, смеяцеся...

І пайшло-паехала. Праз колькі хвілін Уладзік запісваў у пакамечаны, з якога ўжо сыпаліся лісткі, блакнот нумар тэлефона дзяўчыны ці дамаўляўся пра сустрэчу. Седзячы ў аўтобусе, тралейбусе, раптам пачынаў абмацваць уласныя кішэні, залазіў то ў адну, то ў другую, то ў трэцюю... Пасля адшморгваў замок сваёй несамавітай чорнай сумкі (з ёю ён не разлучаўся ніколі, нават ідучы на спатканне) і пачынаў там шаласцець паперамі. Удосталь накорпаўшыся, паварочваўся да спадарожніка, найчасцей спадарожніцы, глядзеў праз акуляры нявіннымі дзіцячымі вачамі і, як старому знаёмаму ці знаёмай, са шкадаваннем казаў:

— Так і ёсць... Забыўся ручку ўзяць. А ў вас не бывае такога, каб што-небудзь забываліся?

Паколькі мы, грэшныя, заўжды спяшаемся, дык вечна штосьці забываем, а таму слова за слова — і завязвалася гаворка. Самае цікавае, што Уладзік на самай справе заўжды што-небудзь забываў.

У прыгожай паловы чалавецтва Церын мог бы карыстацца яшчэ большым поспехам, каб не адна загана. Ён быў на дзіва абыякавы да свайго знешняга выгляду. Разумны, шчыры і бясхітрасны, прыгожы, высокі, шыракаплечы, з густымі русымі валасамі, Уладзік апранаўся безгустоўна. Складвалася ўражанне, што яго зусім не цікавіла, як ён выглядае і што пра яго скажуць. Мог купіць дыхтоўны касцюм, прахадзіць месяц і ні разу не адпрасаваць штаны...

У рэдакцыі мы працавалі ў сумежных кабінетах. Аднойчы адчыніліся дзверы, не заходзячы ўнутр, Уладзік кінуў сваё кароткае «здрасце» і звярнуўся да мяне:

— Андрэй, выйдзі, калі ласка, на адну хвілінку...

Абняў за плечы, адвёў далей ад дзвярэй, пошапкам, таропка, пазмоўніцку загаварыў:

— Андрэй! Ты не ўяўляеш, з якімі дзяўчатамі я пазнаёміўся! Гэта нейкі цуд! Адну клічуць Ларысай, а другую — Светай. Ларыса жыве ў Мінску, працуе завучам у школе-інтэрнаце, а Света, яе сяброўка, прыехала здаваць экзамены. Яна вучыцца завочна ў педінстытуце, здаецца, на чацвёртым курсе. Жыве дзесьці ў вёсцы, таксама працуе ў школе...

Мне было не ў навіну чуць падобнае ад Церына. Ён пастаянна кім-небудзь і чым-небудзь захапляўся. Мог пра мураша, убачанага ў заводскім скверы, добрыя пяць хвілін гаварыць з вялікім жарам. Таму я слухаў і, мабыць, пасміхаўся.

— Ты не смейся, — пакрыўдзіўся Уладзік. — Дзяўчаты, якіх свет не бачыў! Асабліва твая Света.

Я не стрымаўся, зарагатаў галасна, на ўвесь калідор. Сказаць «твая Света» пра дзяўчыну, якой я не бачыў, мог толькі Церын.

— Дзівак ты, — зусім сур'ёзна працягваў Уладзік. — Я ж ведаю, што кажу. Света мне больш спадабалася. Але... Не, Ларыса таксама дзіўная дзяўчына... Вось пабачыш... Дарэчы, гэта Ларыса мяне папрасіла пазнаёміць Свету з добрым хлопцам. Падумаў, падумаў... Света якраз табе падыходзіць, — паўтарыў ён.

У суботу, надвячоркам, чэрвеньскае зыркае сонца хілілася на спачын, я ехаў на спатканне з «дзіўнымі дзяўчатамі». Уладзік, як заўжды, фантазіраваў, гаварыў даволі гучна, не зважаў на пасажыраў. Я ехаў з пэўнай доляй някер'я і нават скепсісу. Школа-інтэрнат месцілася ў прыгарадзе, таму дарога заняла даволі часу. Выйшлі на канцавым прыпынку і апынуліся сярод маладога, яшчэ не высокага сасонніка. Пасля душнага горада тут, на прывольлі, і дыхалася лягчэй, і душа неяк устрапянулася. Паабапал нешырокай, як размінуцца двум машынам, дарогі, якая вяла да школы-інтэрната, расла густая і высокая, яшчэ не скошаная трава. Дыхнула пахамі роднай вёскі, і я адчуў згрызоты сумлення. Больш як год не паказваўся на вочы бацькам! Ну і сынок...

Мае невясёлыя думкі абарваў звонкі дзявочы смех. Побач са школай-інтэрнатам, на ўзгорку, парослым усё тым жа маладым сасоннікам, стаялі тры двухпавярховыя, на два пад'езды, цагляныя дамы для настаўнікаў. Адтуль насустрач нам, узяўшыся за рукі, ішлі дзве дзяўчыны. Убачылі нас, спыніліся.

— Знаёмцеся! — першым узнёсла загаварыў Уладзік. — Мой сябра — Андрэй. Цудоўны хлопец, вельмі таленавіты журналіст і пакуль што халасцяк.

— Я — Ларыса,— працягнула мне руку чарнявая дзяўчына і ў тон Церыну дадала: — А гэта Света. Цудоўная дзяўчына, таленавіты біёлаг і не замужам.

Не ведаю, як для каго, а для мяне першае ўражанне бывае не толькі самым моцным, але амаль беспамылковым. Усмешка падчас знаёмства — гэта своеасаблівая візітка. Калі яна цёплая і шчырая, ідзе знутры, ужо сама па сабе выклікае давер і жаданне глыбей пазнаць чалавека. А калі перад табой стварэнне дзівоснай прыгажосці і цнатлівасці і гэта стварэнне геніяльнага скульптара, якім з'яўляецца маці Прырода, дык што ўжо тут і казаць!

Я быў ашаломлены і настолькі ўражаны, што анямеў. Адно стаяў і на ўсе свае трыццаць два зубы, як дурань, смяяўся. Праўда, нягучна. Прымроілася, што сам анёлак спусціўся на зямлю. А яна, наскрозь сонечная, свяцілася чысцінёй і лагодай і таксама пасміхалася. Была ў гэтай усмешцы гарэзлівасць, нават нейкая задзірыстасць. Падалося, што перада мной стаіць не дарослая дзяўчына, а няўрымслівы падлетак, здольны на самую нечаканую выхадку. Пазней ужо, калі сталі сустракацца і пазнаёміліся бліжэй, даведаўся ад яе самой, што ў дзяцінстве дзяўчына была душой вясковых падшыванцаў. Ледзь не завадатар набегаў на сады, разам з усімі хлапчукамі караскалася на яблыні і грушы, бегала з арэхавым вудзільнам на рэчку лавіць пячкуроў, сліжой і гаркушак.

Яе ясныя карыя вочы глядзелі на мяне без выкліку, але сур'ёзна, як бы пыталі: «Ну, што ты за тып? Думаеш, што журналіст, дык ужо і кавалер?! Не-е-е, даражэнькі... Нос высока не задзірай». А можа, яшчэ што думала. Скажам, такое: «З выгляду хлопец кідкі. У шэрым касцюме, гальштук з ільняной тканіны з вышытым беларускім арнаментам, на нагах светлыя, у тон касцюму, туфлі на высокіх (модных тады) абцасах. Трошкі падобны да цыгана, валасы чорныя, густыя. Праўда, на высокім ілбе ёсць ужо залысіны, а на скронях — ранняя, ледзь прыкметная сівізна...»

На яе мілым, трошкі загарэлым, як і ва ўсіх вясковых людзей, твары не было і следу касметыкі. Усё сваё, натуральнае. І сакавітыя прыпухлыя ружовыя вусны, цёмныя бровы, не шырокія і не вузкія, і — русая, тоўстая, доўгая, амаль да пояса, каса — мая слабасць.

Я стаяў як укопаны і ўсё дзівіўся: дзе ж вырасла такая красачка?! Знаёмства зацягнулася да няёмкасці, і гэта тонка адчула тактоўная Ларыса.

— Хадзем у кватэру, — прапанавала яна. — Вы ж з дарогі.

Пасярэдзіне аднапакаёўкі, стаяў раскрыты, устаўлены прысмакамі стол-кніга. А што яшчэ магло кінуцца ў вочы двум халасцякам?! (Абрыдлі інтэрнацкія буфеты з іх агорклай аднастайнасцю).

— Андрэй са Светай сядуць на канапу, а мы з Церыным — на крэслы. Каб мне зручней было бегаць на кухню, — скамандавала і патлумачыла маладая гаспадыня. Уладзіка яна чамусьці называла па празвішчы.

Не паспелі прысесці, як Уладзік палез у кішэню пінжака, дастаў ручку, з вядомай ужо сумкі выцягнуў блакнот і пачаў штосьці хутка пісаць сваім, яшчэ мудрэйшым, чым у мяне, почыркам. Ён умомант забыўся пра наша існаванне. Асабіста мяне выходка сябра не здзівіла: быў, так бы мовіць, маральна і фізічна гатовы да чарговага «заскоку» калегі. Так ён рабіў у рэдакцыі сотні разоў у самых нечаканых сітуацыях, нават падчас гульні ў карты. Праўда, рэдактар Быстрыцкі ў такіх выпадках не надта цырымоніўся, хутка і ўладна спыняў творчае натхненне падначаленага адным кароткім воклічам: «А ну!..» Рэакцыя Ларысы таксама была імгненная і прадказальная:

— Церын! Ты зноў за сваё? А ну!..

Не ўтрываў, засмяяўся ад добра знаёмага: «А ну!..» А яны ўжо на «ты», — таксама паспеў адзначыць я для сябе. Уладзік не стаў выпрабоўваць цярпенне Ларысы, хуценька схаваў ручку, сунуў у сумку нататнік і нявіннымі, блізарукімі вачамі абвёў з-пад акуляраў кожнага з нас. Нечакана (лепш бы прамаўчаў!) сказаў:

— Ларыска! Ты паглядзі, якая пара! Давай мы іх пажэнім!

У маладосці, акрамя ўсяго іншага, пра што ўжо згадваў, я пакутаваў яшчэ на адну брыдкую хваробу: у кампаніі баяўся падацца смешным. Пачуўшы такое ад Церына, ажно сцепануўся і, як гэта бывала са мной не раз, зніякавеў. Адчуў толькі, як кроў хлынула да твару.

— Мы самі разбяромся! — скрозь шум у галаве пачуў я гарэзлівы Свецін голас.

— Вось іменна! — падхапіла Ларыса. — Знайшоўся сват. Не маленькія, самі дамовяцца. Ты, Церын, лепш пра сябе думай.

— Давай, Ларыска, з табой ажэнімся?! — не то сур'ёзна, не то жартаўліва прапанаваў мой настырны сябра.

Гэта ўжо было занадта. Я падняў вочы на Ларысу і заўважыў, што шчокі ў дзяўчыны запунсавелі.

— Давайце для пачатку вып'ем за знаёмства, — ачомаўся я і стаў разліваць у маленькія чаракі гарэліцу.

— Ажаніцца — не ўпіцца, — уздыхнула і разважліва зазначыла Ларыса. — Праўда, Света?

— З пары яшчэ не сышло. У маладосці нагуляешся — у старасці як знойдзеш! — нечакана расхрабрылася і звонка засмяялася Ларысіна сяброўка.

Тое, што гэта ходкая фраза — не ўласнае вынаходніцтва маёй новай знаёмай, я не сумняваўся. Але ж нешта ўнутры, хутчэй самалюбства, было закранута. Я не стрымаўся, імкнучыся патрапіць у тон Святлане, заўважыў:

— Маладосць даецца чалавеку, каб жыць без праблем у старасці...

— Маладосці — сваё, старасці — сваё, — катэгарычна запярэчыў Уладзік. — Але да гэтай самай старасці яшчэ трэба дажыць.

— А цябе, Церын, хоць зрэдку, але наведваюць талковыя думкі, — скарыстала момант, каб пакпіць, гаваркая Ларыса.

Вось так, у жартах, нязлосных кпінах, непрыкметна праляцеў вечар. Уладзік ахвотна пагадзіўся дапамагчы гаспадыні прыбраць са стала, і мы ўсім гамузам выйшлі на вуліцу.

Дыхнула бадзёрай прахалодай і свежасцю. Дзесьці непадалёку, каля прыватных дамоў, зацята забрахаў сабака. На зорным небе вісеў серпік маладзіка. Сабака раптам — мабыць, на ганак з хаты выйшаў гаспадар — суняўся, і наўкола стала ціха-ціха. Нечакана побач з сасоннікам, у хмызняку, зацёхкаў салавей. Мы ўсе, як па камандзе, сцішыліся. Салоўка — відаць, сабе ў ахвотку — то свістаў, то цёхкаў, то заліваўся пераборам і пошчакам. Амаль побач сваім звыклым тлумным жыццём жыў вялікі шумны горад. А тут панавала поўная гармонія чалавека і прыроды. Дзіўна ўсё гэта было адчуваць.

Я непрыкметна ўзяў Свету за цёплую руку і трошкі сціснуў яе пальцы. Яна адказала слабым поціскам маіх. Пры развітанні асмялеў, узяў дзяўчыну за плечы і прытуліў да сябе. Памкнуўся пацалаваць і пачуў пяшчотнае, але цвёрдае: «Не трэба, Андрэй». Ужо зрабіў два крокі да Церына, які клікаў, як зноў пачуў яе мяккі голас: «Андрэй, а мы яшчэ пабачымся?..»

«Божа! Я самы вялікі ёлупень на зямлі! Кавалер смаркаты... Рамантык недапечаны... Як жа так апраставалціся?!»— крыў сябе апошнімі словамі і дакараў, трасучыся ў аўтобусе. Нават не адразу ўнік, пра што пытае ў мяне Церын:

— Ну, што скажаш, Андрэй? Як табе дзяўчаты? Спадабалася Света? — узрушана дапытваўся Уладзік, відаць, загадзя прадчуваючы мой адказ.

— Гожая дзяўчына, — стрымліваючы хваляванне, адказаў я ўнікліва і, каб зрабіць прыемнае таварышу, дадаў: — А Ларыса твая такая шчабятуха... І гаспадыня цудоўная. Дзяўчына на ўсе сто.

— Ведаеш, Андрэй, — усхвалявана перапыніў мяне Церын. — Я хачу з ёй, акрамя жартаў, ажаніцца. Ды-ы-ы...

Ён змоўк, пасур'ёзнеў, нават, падалося, глыбока ўздыхнуў. Не выпадала распытваць Уладзіка пра ўсе абставіны іхняга знаёмства і цяперашнія адносіны. Захоча чалавек падзяліцца патаемным — сам скажа, за язык цягнуць не варта. А я, каб згладзіць няёмкую паўзу, прымірэнча заўважыў:

— Не трэба, Уладзік, гнаць коней. Дзяўчаты больш разважлівыя, чым мы, хлопцы. Час, сам ведаеш, лепшы лекар. Ён паставіць усе кропкі над «і».

Гаварыў, а ў самога ў вушах гучаў непадробны і непаўторны, шчыры, душэўны Свецін смех. «Напэўна, — разважаў я сам з сабой, — Света натура мяккая і даверлівая. Душа ў яе яшчэ чыстая. Але ж яна, як і я, мусіць, рамантык. Вось гэта будзе пара з самавара!»

— Дамовіўся пра сустрэчу? — даляцеў голас Церына.

— Забыўся, — шчыра прызнаўся. — Але...

— Ды ты што?! — ажно ўстрапянуўся Уладзік. — Такая дзяўчына! Цяпер такіх мала. Гэта я табе кажу.

Спаткацца дамовіліся праз тыдзень, у нядзелю. Света спаслалася на сваю занятасць, неабходнасць грунтоўна падрыхтавацца да наступнага экзамену.

Усе дні я зацята прыдумваў праграму выхаднога дня. І... прыдумаў. Купіў білеты на футбольны матч «Дынама» Мінск — «Спартак» Масква. Сам даўні прыхільнік гэтай цудоўнай гульні, быў цвёрда перакананы, што і Святлана разам са мною стане гарланіць, крычаць і свістаць. Усе мы крыху эгаісты, але і цяпер, праз шмат гадоў, згадваючы той паход на стадыён, пачуваюся няёмка.

***Раман рыхтуецца да друку ў бліжэйшых нумарах часопіса «Полымя».***

# Шлях да дзіцяці

**Мала напісаць і выдаць кнігу. Трэба яе як след прэзентаваць, адэкватна ўвесці ў свядомасць сучаснага дзіцяці, а калі размова ідзе пра дашкольнікаў і малодшых школьнікаў — у свядомасць іх бацькоў. Урэшце, трэба яе разумна прадаць. Менавіта гэтым праблемам быў прысвечаны чарговы «круглы стол» «ЛіМа», на які мы запрасілі людзей, найбольш цесна злучаных з дзіцячай кнігай.**

**Таццяна Студзенка:**

— Паважанае спадарства, у кожнага з вас — вялікі вопыт працы з дзіцячай кнігай, і ў кожнага — вопыт індывідуальны. Таму праблему дзіцячай кнігі можна абмяркоўваць з розных бакоў. Якія «формы падачы» дзіцячай літаратуры дзейсныя, а якія — не вельмі? Ці можа папяровая кніга суіснаваць побач з электроннымі носьбітамі? Ці здольнае «камп'ютарнае» пакаленне ўспрымаць дзіцячую класіку? Якія іншыя прынцыповыя пытанні існуюць у гэтым рэчышчы?

**Ала Корбут:**

— Паколькі я займаюся выдавецкай справай, мяне ў першую чаргу хвалюе праблема распаўсюджання і папулярызацыі дзіцячай кнігі. Мы маем статыстыку наконт найбольш запатрабаваных кніг, іх накладаў, а таксама тэрмінаў, у якія яны рэалізуюцца праз гандлёвыя сеткі або даходзяць у бібліятэкі. У 2010 — 2011 гг. двухтысячным накладам за 7 — 18 месяцаў разышліся «Казкі дзяцей Беларусі», «Казачныя аповесці пра міжпланетнага Пажарніка і іншых мамурыкаў» Р. Баравіковай, «Казкі цётухны Руф» Н. Голубевай, «Рыжык у Залюстрэччы» А. Туравай, «Птушкі» А. Бадака (серыя «Усім пра ўсё»). Трохтысячны наклад у кніжак А. Бадака з той жа серыі «Расліны» і «Жывёлы».

«Хіт» мінулага года — «Маміна казка» (укладальнік А. Бадак): яе наклад — каля сямі тысяч асобнікаў за 5 месяцаў.

Апошнім часам значны сектар папулярызацыі кнігі — бібліятэкі. Іх супрацоўнікам мы павінны пакланіцца. Яны запрашаюць і нас, і аўтараў. Да таго ж, яны даволі кампетэнтныя ў тым, што датычыць зместу літаратуры і арганізацыі сустрэч з чытачом. У крамах цяпер таксама працуюць спецыялісты, якія могуць расказаць, дапамагчы знайсці беларускую кнігу. Яшчэ не так даўно гэтага не было.

**Аксана Бязлепкіна:**

— Апошнім часам сёе-тое з беларускай дзіцячай кнігі трапляе ў гіпермаркеты. Зразумела, каб выданне там прадавалася, дзеці, убачыўшы яго, павінны лямантаваць: «Я гэта хачу!» І калі маці адказа, што па-беларуску не трэба, каб ён настойваў: «А я ўсё адно хачу, бо там вельмі прыгожыя малюнкі!»

**Георгій Марчук:**

— Гіпермаркеты — новы перспектыўны кірунак рэалізацыі, які, безумоўна, трэба распрацоўваць. Мяне цікавіць яшчэ вось што: як у выдавецтвах ставяцца да дзіцячай кнігі? Ці выступаюць яны з прапановамі наконт выгляду і кантэнту альбо цалкам разлічваюць на ініцыятыву аўтараў? Уладзімір Мінавіч, вы нядаўна выдалі кнігу, так?

**Уладзімір Мазго:**

— Сапраўды, але, на жаль, кніжка атрымалася нияркая, бо ў ёй няма малюнкаў. Так яно танней абыходзіцца выдавецтву.

**Аксана Бязлепкіна:**

— Па маіх назіраннях, існуе перакос і ў іншы бок: шыкоўная папера, выдатныя малюнкі... Фарматы часам большыя за А4. Гэтай кніжкай можна забіць дзіцёнка, але прымусіць чытаць немагчыма. Кніга павінна быць адэкватнай не толькі па змесце. Натуральна, што малюнкі і колер павінны быць, але яны мусяць быць простымі!

**Таццяна Студзенка:**

— Мне спадабалася практыка выдавецтва «Детская литература»: тонкія кніжкі, сціплыя, але таленавіта ілюстраваныя, пакуюць па 5 — 10 асобнікаў у скрыначкі. І варыянт падарункавы, і дзіця не спужаецца. Дырэктар выдавецтва на выстаўцы асобна падкрэсліла, што дзіцяці трэба даць нешта суразмернае з ім, каб яно магло засвоіць кніжку і адчуць гонар.

**Аксана Бязлепкіна:**

— Не толькі выдаваць, але і пісаць для дзяцей трэба з улікам іх псіхалогіі. У 1990-я гады прыйшло абсалютна іншае пакаленне — значыць, і рабіць кніжны прадукт трэба прынцыпова іншым.

**Уладзімір Мазго:**

— Жыццё раней было больш марудным, цяпер паскорылася. Натуральна, гэта ўплывае на псіхіку і дзяцей, і дарослых.

**Раіса Баравікова:**

— Я шмат выступаю ў школах і таксама бачу, што прыходзіць іншае пакаленне. Яно расце на камп'ютарных гульнях, інтэрнэце — увогуле, жыццё наша стала вельмі інфармацыйна насычанае.

**Георгій Марчук:**

— Мне здаецца, што пра іншую псіхалогію казаць памылкова. І пакаленне 90-х, і пакаленне 60-х разумеюць Андэрсена, які не ўлічваў камп'ютарных сістэм і адпаведнай псіхікі. Барацьба Дабра са Злом — калізія пастаянная. Іншая справа, што варта ствараць кніжкі, адпаведныя адрасату па ўзросце: пісьменнік павінен дакладна разумець, для якога ўзросту ён піша: дашкольнага, малодшага школьнага, падлеткавага, юнацкага. Нацыянальны інстытут адукацыі павінен адсочваць і рэкамендаваць у школьныя падручнікі творы па гэтым прынцыпе.

**Алесь Бадак:**

— Я таксама катэгарычна не згодны, што трэба нават для маленькіх улічваць нейкую іншую, «камп'ютарную», псіхалогію. Дзіця бачыць не толькі камп'ютар і мабільнік, але і сваіх бацькоў, і сонейка за акном. Як пра гэта пісаць — іншая справа: трэба пісаць разнастайна і таленавіта. Яшчэ не разумею, калі супрацьпастаўляюць кнігу і планшэт. Гэта толькі тэхнічнае пытанне, няважна, з чаго чытаць.

**Раіса Баравікова:**

— Калі казаць пра адрасата, я хацела б падкрэсліць нястачу якасных кніг для самых маленькіх. На выстаўках сутыкнулася з бацькамі, якія спыняюць пытаннем: «Падкажыце нам кнігі, па якіх мы можам вучыць наша трохгадовае дзіця беларускай мове. Кшталту «Наша Таня громко плачет...» — па-беларуску. Мы хочам, каб яно ведала родную мову». На такую бацькоўскую ініцыятыву хутка зрэагавала «Мастацкая літаратура» і пачала выдаваць серыю «Нашым дзеткам». Зрэагавала і «Вясёлка», стварыўшы новы часопіс «Буся». Але гэтага недастаткова. Вы думаеце, лёгка скласці вершы кшталту «Наша Таня громко плачет...»? У чатырох радках трэба даць і малюнак, і дзеянне, і інтрыгу!..

**Таццяна Студзенка:**

— І ведаеце, як каменціруюць стваральнікі «Бусі» і серыі «Нашым дзеткам» свае ініцыятывы? Алена Масла лічыць, што менавіта з «самай дзіцячай» кнігі пачынаецца нацыянальная мова і культура.

**Георгій Марчук:**

— Я таксама ўпэўнены, што дзіцячая літаратура ўратуе літаратуру, прынамсі, беларускую. Таму што дзеці першымі прыходзяць да беларускай кнігі. Чытаючы казку, яны вывучаюць мову. Пасля будуць чытаць Мележа, які казак не пісаў. Таму мы павінны маліцца на настаўніка беларускай мовы і літаратуры і падтрымліваць дзіцячага пісьменніка, разумеючы пад ім і таго, хто піша навукова-папулярную, энцыклапедычную літаратуру для дзяцей. Калі гэта таленавіта зроблена і адэкватна адрасавана — яно сваю ролю выканае.

Наконт распаўсюджання. Так, пісьменнікі часта бываюць у школах, бібліятэках, але трэба задзейнічаць усе магчымыя шляхі. Прыкладам, мы абавязкова возьмем удзел у нарадзе пры Нацыянальным інстытуце адукацыі ў красавіку наконт дапаўнення, карэкцыі школьных праграм па літаратуры, спісаў факультатыўнага чытання. Шмат што састарэла, шмат новых годных твораў. Здаецца таксама, што варта было б праводзіць спецыяльныя семінары з выкладчыкамі і студэнтамі педагагічных ВНУ. Нельга, каб яны не праяўлялі ініцыятывы ў гэтым пытанні.

**Уладзімір Мазго:**

— Не трэба забывацца, што ёсць яшчэ і сям'я. Яна таксама павінна быць зацікаўленая ў нацыянальнай кнізе. Увогуле, калі выходзіць кніга, дзеля яе прэзентацыі трэба задзейнічаць усе магчымыя сродкі інфармацыі: радыё, тэлебачанне, газеты. Аднаго «ЛіМа» недастаткова.

**Раіса Баравікова:**

— У Германіі распаўсюджаная практыка сямейнага чытання. У выхадныя дні збіраюцца клубы — пры бібліятэках, магістратах... Ідуць туды ўсёй сям'ёй, нібы ў царкву, і 2 — 3 гадзіны запар чытаюць (дзеці, дарослыя) ды абмяркоўваюць. Нам бы так — у грамадстве, якое катастрафічна «апускаецца» на тэлесерыялах.

Яшчэ адзін выдатны сродак папулярызацыі дзіцячай кнігі — прамысловасць. Памятаю ў ЗША выхад на экраны «Караля Льва»: горад быў завалены адпаведнымі сувенірамі. У нас гэтая справа яшчэ не наладжаная.

**Аксана Бязлепкіна:**

— Лічу, што сапраўды так. Мне яшчэ хацелася б закрануць праблему зместу кніг для дзяцей. Там не павінна быць «патрыятызму» ў нейкіх лабавых формах. Таму што, калі дзіця чытае па-беларуску (пра звярка ці камп'ютар — пра што б ні было), задача стварэння нацыі ўжо выконваецца. Нават калі ён чытае замежнага пісьменніка на беларускай мове.

Дзіцёнку трэба так прапаноўваць кніжку, каб яна «падсаджвала» яго на чытанне і ён з нецярплівасцю чакаў наступнага выдання.

**Таццяна Студзенка:**

— Ці павінна дзіцячая кніга закранаць сур'ёзныя, «цяжкія» тэмы: смерць, хваробу і г. д.?

**Георгій Марчук:**

— Калі гэта адпавядае дзіцячай псіхалогіі пэўнага ўзросту — можна гаварыць пра ўсё, акрамя забойства і гомасексуалізму.

**Ала Корбут:**

— Дзякуючы кніжным выстаўкам я ведаю, якія тэмы запатрабаваныя найбольш: спорт, здаровы лад жыцця, камп'ютарная дасведчанасць, адносіны з бацькамі і равеснікамі. Такія пытанні павінна ўздымаць і дзіцячая мастацкая літаратура. Але, калі я гутару пра гэта з пісьменнікамі, яны кажуць, што не могуць пісаць на заказ. Праўда, не заўсёды: Наталлю Ігнаценку папрасілі напісаць у вершах пра этыкет — яна напісала, пра сучасныя прафесіі — таксама, калі ласка.

**Раіса Баравікова:**

— Шкада, што ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі няма нечага накшталт бюро прапаганды літаратуры, у тым ліку дзіцячай.

**Алесь Бадак:**

— Існуе, аднак, ініцыятыва Клуба дзіцячых пісьменнікаў. Ёсць шэраг творчых асоб, шчыра зацікаўленых у аб'яднанні намаганняў пісьменнікаў па папулярызацыі сваіх кніг. Разам яны больш могуць зрабіць дзеля таго, каб сустрэчы з чытачом насілі пазнавальны характар. «Клуб» не супрацьпастаўляе сябе секцыі дзіцячай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі, але імкнецца зрабіць рэальны крок насустрач свайму чытачу. Настаўнік не можа распавядаць пра ўсе кніжкі, таму пісьменнікі павінны працаваць разам з настаўнікам.

Як канкрэтна мне бачыцца такая справа? Вось у нас нядаўна была ініцыятыва (разам з Міністэрствам інфармацыі) — паездкі па дзіцячых дамах з прэзентацыяй «Мамінай казкі». Дзеці загадзя рыхтаваліся, ставілі спектаклі па беларускіх народных казках. Мы прэзентавалі нашу кнігу, дарылі яе кожнаму (уявіце, што гэта значыць для такіх дзяцей!), прапанавалі чытаць вершы на сцэне, у мікрафон. Кніга — гэта жыццё, і несці ў свет яе трэба адпаведна.



*Георгій Марчук, пісьменнік, сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі*



*Раіса Баравікова, пісьменніца*



*Алесь Бадак, пісьменнік, намеснік дырэктара РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»-галоўны рэдактар часопіса «Нёман»*



*Уладзімір Мазго, паэт, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Полымя», старшыня секцыі дзіцячай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі*



*Аксана Бязлепкіна, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ*



*Ала Корбут, намеснік дырэктара РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»*



*Таццяна Студзенка, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры замежнай журналістыкі і літаратуры Інстытута журналістыкі БДУ, карэспандэнт газеты «ЛіМ».*

*Паралелі*




Фігурны верш Анатоля Кнотэка
«Яна кахае мяне. Яна не кахае мяне».

На інтэрнэт-старонцы Анатоля Кнотэка з Вены пазначана: «Мастак, візуальны паэт». Пагадзіцеся, нечаканае і даволі таямнічае спалучэнне. Больш за тое, на сваім сайце аўтар прапануе наведвальнікам набыць зборнік вершаў «Анахранізм», прытым падкрэслівае, што кожны асобнік будзе ўнікальны, складзены са спецыяльна адабраных вершаў і зроблены адмыслова для вас. Выдатна, праўда? Але таямніца «візуальнай паэзіі» застаецца нераскрытай. Адразу згадваюцца фігурныя вершы Сімяона Полацкага, фота-вершы Адама Глобуса… але апынаецца, што візуальная паэзія — з'ява крыху іншага кшталту. Пра адметнасці гэтага віду літаратурнай і мастацкай творчасці, яго распаўсюджанасць у Аўстрыі — наша гутарка з Анатолем Кнотэкам.

# Таямніцы візуальнай паэзіі

Марына ВЕСЯЛУХА

**— Візуальная паэзія — гэта ўсё ж такі карціна ці верш? Што першаснае і больш важнае?**

— Я стараюся не даваць азначэнняў таму, чым займаюся, бо на гэтае пытанне вельмі складана адказаць. Нешта «існуе» ці «не існуе» толькі ў вачах гледача. Кожная літара можа разглядацца як вобраз і, канечне… як верш. Чаму не? У нямецкай мове ёсць слова «Poesie», што можа быць перакладзена як «паэзія», але таксама ёсць слова «Dichtung», якое больш суадносіцца з такім паняццем, як «шчыльнасць». І мне яно больш падабаецца! Ва ўсялякім выпадку, у цэнтры маіх работ знаходзіцца ідэя. Ідэя — першасная! Мяне натхняюць асобныя словы, фразы, плоскасці, ды што казаць — мова ў цэлым натхняе мяне.

**— У Аўстрыі гэта папулярная з'ява?**

— У Аўстрыі багатая традыцыя мастацкіх авангардных плыняў. Вялікі ўплыў на маю творчасць аказалі паэты Венскай групы. Але я не магу сказаць, што візуальная паэзія — сапраўды з'ява ў нашай краіне. Прынамсі, у параўнанні з мінулым, асабліва часамі, калі Вена была цэнтрам эксперыментальнай літаратуры і паэзіі авангарда. Але гэта было вельмі даўно. Магчыма, візуальную паэзію сёння можна назваць міжнародным рухам: інтэрнэт стаў нашай пляцоўкай, пабудаваныя масты паміж фігурнымі вершамі, візуальнай і лічбавай паэзіяй, паміж літаратурай і канцэптуальным мастацтвам.

**— Чаму вы вырашылі спалучыць паэзію і мастацтва менавіта такім шляхам?**

— Мая зацікаўленасць візуальнай паэзіяй дастаткова нядаўняя, я пачаў ёй займацца прыкладна 10 год таму. У маладосці я ў асноўным маляваў і быў больш захоплены жывапісам, чым літаратурай. Карціны былі напісаны пераважна пад уплывам работ канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Потым пачаў рабіць калажы з тэксту і пісаць фігурныя вершы. Пасля знаёмства з аўстрыйскім паэтам Пітэрам Даніэлем



Анатоль Кнотэк.

і паездкі ў госці да Юргена Блума ў Хюнфельд (Германія), дзе знаходзіцца яго праект «Адкрытая кніга» (фігурныя вершы на фасадах больш як 100 дамоў), я зразумеў, што візуальная паэзія мяне вельмі зачароўвае. З таго часу пачаў працаваць у асноўным у гэтай галіне і «пісаць» вобразы, усё яшчэ цвёрда арыентуючыся на візуальную мову фігурнага пісьма. Падарожжа, якое пачалося ў той момант, усё яшчэ працягваецца. Мая мэта — выказваць ідэі, цесна звязаныя з пісьмом, маўленнем і зрокавай мовай, і як мага менш абмяжоўваць сябе пытаннямі стылю.

**— Ці кожны верш можа быць «візуалізаваны»?**

— Насамрэч я не ведаю, бо так не раблю. «Перакладаць» паэзію ў традыцыйным разуменні гэтага слова ў паэзію візуальную — не мая мэта. На маю думку, трэба рабіць усё зусім па-іншаму.

**— Кніга вашых вершаў «Анахранізм» кожны раз складаецца па-новаму. Якімі прынцыпамі кіруецеся пры ўкладанні кожнага з асобнікаў?**

— Коратка распавяду пра кнігу. Я хацеў адначасова зрабіць і паказаць розныя рэчы. Некаторыя з іх сёння страчаны з-за выкарыстання сучасных тэхналогій. Кніга як арыгінал, але не копія. Кожны верш асобна напісаны на маёй друкарцы, таму кожная старонка ўнікальная. Часам я эксперыментаваў: мацней ці слабей націскаў на клавішы, верш можа выглядаць па-іншаму, бо стужка ў друкарцы ўжо не новая… Мне падабаецца працаваць так, як працавалі мае «продкі»: выкарыстаць іншы падыход, стварыць візуальны верш, зборнік…

Звычайна я працую з камп'ютарнымі графічнымі рэдактарамі, малюю на палатне ці раблю інсталяцыі. Для кнігі я выбраў каля 50 вершаў, якія ўжо зрабіў на камп'ютары, і паспрабаваў паўтарыць іх з дапамогай друкаркі. Як разумееце, цяпер працэдура зусім іншая. Так, я выбіраю з таго, што маю, але перапрацоўваю работы з улікам ідэй, што ўзніклі ў працэсе напісання. Ну, і нарэшце я павінен выбраць 16 вершаў для кожнай кнігі. Таму кожны верш у кожнай кнізе — арыгінальны. Больш за тое, калі сам робіш кнігі, маеш іншыя перавагі! Можна парваць, парэзаць ці падрапаць старонкі, нешта прымацаваць клеем ці з дапамогай друкаркі зрабіць дзірачкі ў старонках.

**— Хто пакупнік і чытач вашай кнігі?**

— Большасць пакупнікоў — падпісчыкі майго блога *visual-poetry.tumblr.com*, паэты, іншыя мастакі, калекцыянеры ці проста людзі, якія хочуць мець нешта асаблівае.

**— Якія кнігі вы чытаеце?**

— Яны розныя. Усё залежыць ад маёй мэты. У цэлым я люблю эксперыментальную паэзію (кнігі Эрнста Джэндла і іншых аўтараў) і кнігі па выяўленчым мастацтве (напрыклад, «Дрэва кодаў» Джонатана Сафрана Фоера). Таксама люблю філасофскія кнігі і, вядома, чытаю творы, якія мне рэкамендуюць сябры.

*Час чытаць*

# Гэта пра мяне!



**Алена МІХАЛЕНКА,
галоўны рэдактар
газеты «Воскресение»:**

— Не вельмі проста адказаць, якія кнігі дапамаглі стаць чытачом. Бацькі сцвярджалі, што я чытаю з чатырох, а мне здаецца, я чытала заўсёды. Вельмі любіла казкі і прыгоды, а мама марыла пра вундэркінда і прымушала чытаць біяграфіі паспяховых і знакамітых людзей. Дасюль гэта мой нелюбімы жанр. Падбор кніг быў непрадказальны. Сярод казак — Гогаль і чамусьці Мальер.

Калі была падлеткам, не разумела велічнасці Пушкіна. Так, прыгожа, добрыя вершы. Але чаму геніяльныя? І раптам у летні вечар хаваюся на балконе з паэмай «Цыганы». Дабіраюся да радкоў: «О чём грустить? Когда б ты знала, когда бы ты воображала неволю душных городов…» І пранізліва разумею: гэта пра мяне! Так адкрыла Пушкіна для сябе асабіста. Нешта падобнае было з творчасцю Льва Талстога. Атрымаўшы заданне прачытаць «Вайну і мір», сумна глядзела на важкія тамы. Ні салонныя, ні батальныя сцэны не кранаюць. А потым — маналог Наташы Ростовай. Ды гэта ж мае думкі, мае сумненні, мае мары! Як пісьменнік, мужчына салідных гадоў, мог дакладна ведаць, што робіцца ў душы пятнаццацігадовай дзяўчынкі? Геній!

Вось так, навобмацак, і адкрывала для сябе літаратуру. Скарыла «Дзікае паляванне караля Стаха» Караткевіча — менавіта тым, што ніколі не чытала нічога падобнага. А ў шас-наццаць адбылася сустрэча з творамі Блока, якая на некалькі гадоў засланіла ўсё прачытанае дасюль.

З апошніх набыткаў самым лепшым лічу двухтомнік «Часы» Анатоля Аўруціна — вершы розных гадоў. Не чытаю глыбокія творы хутка і ўсе адразу, толькі памалу: на чымсьці спыняюся, вяртаюся.

# Краіна майстроў

Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі прэзентавала навукова-папулярнае выданне «Краіна майстроў. Рамесныя цэхі Беларусі: XVI — XVIII ст.»

Анастасія ГРЫШЧУК

Анатоль Цітоў, аўтар кнігі, нездарма абраў менавіта гэты прамежак часу — XVI —XVIII стагоддзі: акурат тады і працавалі сапраўдныя цэхі. Тое, што існавала пры Расійскай імперыі, таксама звалася цэхамі, але па сутнасці ўяўляла зусім іншую структуру з іншымі функцыямі.

Праца над кнігай цягнулася не адзін год і нават не адно дзесяцігоддзе. Раней Анатоль Кірылавіч займаўся геральдыкай і сфрагістыкай. А паколькі пячаткі рабілі рамеснікі, майстры не маглі застацца па-за ўвагай гісторыка.

Многія крыніцы былі выкарыстаны Анатолем Цітовым упершыню. Ілюстрацыйны матэрыял ён падбіраў сам: гравюры Яна Лейкена, якія ў Беларусі не знайсці (аўтар рабіў копіі ў польскіх архівах), ілюстрацыі Еста Амана. Але самі дакументы, з якімі працаваў гісторык, змяшчаць у кнізе не сталі: некаторым паперам каля 400 гадоў, што робіць іх не вельмі фотагенічнымі.

Вялікую ролю ў стварэнні кнігі адыграла польская Каса Мяноўскага — фонд дапамогі навукоўцам. Дзякуючы яму Анатоль Кірылавіч жыў у Польшчы тры месяцы і меў магчымасць вольна карыстацца архівамі Варшавы і Кракава. «Сёетое», як сказаў аўтар, ёсць і ў Львове. Маскоўскія ж матэрыялы часта дубліруюцца.

«Краіна майстроў» дае звесткі пра больш як 140 рамесных цэхаў, якія існавалі ў 120 магдэбургскіх гарадах. Цікава, што ў Гомеля, які цяпер з'яўляецца другім па велічыні горадам Беларусі, магдэбургскага права не было, таму не было і цэхаў.

— Аднаго разу ў метро заўважыў рэкламу: «Заплаціце 300 долараў — і мы зробім з вас ювеліра», — смяецца Анатоль Кірылавіч. — Даўней, каб стаць ювелірам, чалавек мусіў пяць год вучыцца ў майстра, потым выpraвіцца на год у вандроўку за межы краіны — у Польшчу, Украіну, Германію і інш., там папрацаваць год і пасля прывезці лісты з характарыстыкай. Па вяртанні з вандроўкі яшчэ год адпрацаваць у горадзе — і толькі потым яго дапускалі зрабіць «штуку», «шэдэўр» — работа падмайстра на званне майстра. На яе давалі два гады. Прыстаўляліся два майстры — сачыць, каб ніхто не падказваў. Калі ж той зробіць «штуку», прадстаўляе яе майстрам. Яны маглі выказаць заўвагі. На тое, каб выправіць недахопы, давалі яшчэ тры месяцы. І тады ўжо спраўлялі каляцыю — банкет па-сучаснаму — і чалавек станавіўся майстрам.

Кніга «Краіна майстроў» адрасавана вузкаспецыялізаванай, але насамрэч яна змяшчае такія цікавыя звесткі, што выданне не будзе карысным для кожнага. Аўтар не абмяжоўваецца сухім пералікам цэхаў, але апісвае працэс іх фарміравання, структуру, правы і абавязкі вучняў.

# Чалавек, які робіць горад

**Алеся АРЫЦКАЯ**

Авантурыст, чалавек тусоўкі, «бацька» беларускага андэграўнда. Кіраўнік дзіцячай студыі выяўленчага мастацтва, заснавальнік творчага аб'яднання «Арцель», сябра пiцерскiх «міцькоў», дзеяч сусветна вядомых цэнтраў сучаснага мастацтва «Тахелес» і «Хрысціянія»... Асоба мастака Віталя Чарнабрысава шматгранная, расповед пра яе — захапляльная гісторыя пра нефармальнае савецкае мастацтва з яго абавязковымі сакральнымі складнікамі: «кватэрнікамі», мастацкімі выстаўкамі ў падвалах і на гарышчах, горача любімымі народам кумірамі, якія, адмаўляючы афіцыёз, працавалі дворнікамі, вартаўнікамі і качагарамі.

В. Чарнабрысаву не так даўно споўнілася 70 год, аднак персанальная выстаўка мастака «Час Ч», якая праходзіць у Гарадской мастацкай галерэі Л. Шчамялёва і арганізавана ў рамках праграмы «Прыватная калекцыя» і цыкла майстар-класаў «Прыватнае калекцыяніраванне і сучасны музей», — першае афіцыйнае экспанаванне твораў мастака ў Беларусі.

— Я па-добраму шакіраваны: выстаўка «Час Ч» для мяне — афіцыйнае прызнанне, своеасаблівая інаўгурацыя, бо я прызвычаіўся адносіць сябе да андэграўнда: выстаўляюся ў Піцеры, часцяком — у кватэрах і падвалах. У Мінску падобных прэцэдэнтаў наогул не здаралася. Праўда, мае работы ёсць у некаторых прыватных калекцыях твораў сучаснага беларускага мастацтва, якія прадставілі майстры падчас сакавіцкай выстаўкі «У межах уласнага «Я» — мастак-калекцыянер у Беларусі». Меў добрую магчымасць параўнаць сябе з карыфеямі, зрабіць пэўныя мастацкія вынікі, — дзеліцца ўражаннямі В. Чарнабрысаў.

Экспазіцыя «Час Ч» акцэнтуе ўвагу не на нефармальнасці статусу В. Чарнабрысава, але на яго творчасці. Усе работы, якія тут можна пабачыць, узяты з прыватных збораў мінскіх калекцыянераў і мастакоў Аляксея Андрэева, Ганны Балаш, Данілы Парнюка, Андрэя Плясанава, Ігара Малевіча, Таццяны Бембель: яны любяць і збіраюць творы менавіта Чарнабрысава.

— Прадстаўленыя тут высокаўзроўневыя работы не з'яўляюцца ні маёй уласнасцю, ні ўласнасцю мастака. Яны нарадзіліся на пэўнай тэрыторыі і ў пэўны час, належаць не аднаму чалавеку, але цэлай краіне, таму і нельга трымаць іх у каморы, — адзначыў фатограф Даніла Парнюк падчас адкрыцця выстаўкі.

На жаль, выставачная прастора мае абмежаваныя памеры, таму прадстаўлены толькі жывапіс і скульптура аўтара. Давялося пакінуць за кадрам яго пленэрныя працы з каменем, малюнкі, паэтычную творчасць. Затое можна пабачыць некаторыя друкаваныя аб'екты, сярод якіх — малатыражныя прыклады самвыдатаўскай стылістыкі, а таксама макет кнігі аўтарства мастака «Прыгажосць выратуе свет» — галоўны экспанат выстаўкі. Тут, як лічыць В. Чарнабрысаў, змешчаны чатыры тэксты, якія дапамогуць зразумець дзіцячую творчасць: у мастака за плячыма 30 год педагагічнай дзейнасці ў якасці кіраўніка дзіцячай студыі па выяўленчым мастацтве. Дырэктар Гарадской мастацкай галерэі Л. Шчамялёва Таццяна Бембель паабяцала зрабіць усё магчымае, каб праект па выданні кнігі атрымаў практычную рэалізацыю. Як і выстаўка твораў В. Чарнабрысава, якімі валодаюць шматлікія піцерскія прыватныя калекцыянеры.

Мастака нездарма любяць параўноўваць з персанажамі фільмаў Кустурыцы: адкрыты твар, вясёлыя вочы — маладосць душы прадстаўлена на ўсе сто працэнтаў. І гэта пры тым, што, як ні банальна гучыць, пражыта доўгае і складанае жыццё. Але якое!

— Нарадзіўся я ў горадзе Фрунзэ (*сучасны Бішкек*) у 1941 годзе, — распавядае В. Чарнабрысаў. — Выходзіш з дома — перад табой цянь-шаньскія хрыбты. І стэп. А там — чырвоныя макі, цюльпаны, вецер чароўны з пагоркаў дзьме… І горы. Цёмныя, асабліва там, дзе цясніны, пячоры, уверсе — снег і лёд, і неба сіняе-сіняе. Уражанні на ўсё дзяцінства засталіся! У 1946 годзе пераехалі ў Румынію, але нешта ў бацькоў сямейнае жыццё не заладзілася: маці забрала мяне, і мы з'ехалі на Украіну, потым зноў вярнуліся ў Фрунзэ. У 1951 годзе пераехалі ў Гомель. Горад быў разбураны ўвесь, бандыцкі, але ён быў такі цікавы, была ў ім нейкая нязломнасць і жывучасць! Я не мог прымусіць сябе сядзець дома: закінуў вучобу, увесь вольны час бавіў у гомельскім парку. Памятаю, 8 сакавіка крыгаход ішоў, а мы са школы купацца бегалі. Мая маці была вельмі добрай мастачкай, працавала ў бібліятэцы, бацька паходзіў з малдаўскай савецкай эліты, бабуля з'яўлялася заслужанай настаўніцай Кіргізскай ССР. А мне ў школе было сумна, я ўсе сшыткі размалёўваў, кніжкі. Са мной змагаліся: прастойваў па 3 гадзіны ў пустой настаўніцкай. Тады я і зразумеў — мастацтва патрабуе ахвяр.

У 1958 годзе мастак з'ехаў у Мінск. Працаваў дзе давядзецца. Пэўны час нават у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы рабочым сцэны. Там і адчуў усю прыгажосць беларускай мовы. Увосень 1961 года В. Чарнабрысава забралі ў армію, і ён апынуўся ва Уладзіміры. Як аказалася, яшчэ ў чэрвені гэту дывізію расстрэльвала жыхароў Мурама падчас сумна вядомых хваляванняў. З таго моманту хлопец паабяцаў сабе ніколі не мець адносін з дзяржавай. Пасля арміі накіраваўся да сяброў у Піцер, дзе адчуў сапраўдны дух творчасці. Хацелася развіцця — па вяртанні ў Мінск з другога разу паступіў у мастацкае вучылішча, там і патрапіў у групу мастакоў-афарміцеляў, якую накіравалі вучыцца ў Каўнас. Мастацкае жыццё віравала, а стары горад, без фабрык і заводаў, выглядаў на дзіва непралетарскім. Канечне, В. Чарнабрысаў не давучыўся. Папрацаваўшы ў мастацкай майстэрні, дзе даводзілася вельмі хутка распісваць вялікую колькасць матрошак, з першага ж заробку махнуў у Крым: вабілі прыгоды ў духу А. Грына, цікавыя сустрэчы. Калі зноўку вярнуўся на Радзіму, больш не спрабаваў атрымаць адукацыю, а пайшоў у ЖЭС і прапанаваў сябе ў якасці кіраўніка дзіцячай студыі па выяўленчым мастацтве. Мастаку выдзелілі падвал, там ён і распачаў заняткі, якія расцягнуліся на 30 год. І толькі пасля перабудовы В. Чарнабрысаў змяніў месца працы, атрымаўшы пасаду вартаўніка і дворніка Нацыянальнага мастацкага музея.

— Віталь Феадосьевіч — мой першы настаўнік, які далучыў мяне да сапраўднага мастацтва, — адзначыла Таццяна Бембель. — Яго вучні вандравалі па падвалах ЖЭСаў і недабудаваных дамоў — менавіта там перыядычна праходзілі заняткі, але гэта не перашкаджала нам з задавальненнем наведваць студыю. А яшчэ, памятаю, неяк В. Чарнабрысаў правёў нам з сястрой экскурсію па мастацкім музеі... а 12-й гадзіне ночы: сістэма сігналізацыі яшчэ не была ўсталявана, патрапіць унутр, тым больш вартаўніку, ніякіх складанасцей не выклікала. Ці ж забудзеш такое?



*«Ян Амос Каменскі». ДСП, алей, 2011.*

Культуролаг і навуковы супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Вольга Архіпава таксама называе В. Чарнабрысава сваім настаўнікам, які дапамагае ёй даследаваць выяўленчае мастацтва, распавядае пра сваіх сяброў — мастакоў і калекцыянераў.

Калісьці ў картатэцы Нацыянальнага мастацкага музея была толькі адна праца В. Чарнабрысава, якую ён сам і падарыў музею. Паступова калекцыя папоўнілася іншымі творамі. Нездарма падчас адкрыцця выстаўкі «Час Ч» прагучала фраза, што без В. Чарнабрысава не з'явілася б такое паняцце, як «чалавек, які робіць горад»: сапраўднае мастацтва не абрастае паняццямі «афіцыйнае» ці «неафіцыйнае», «авангард» ці «класіка» — яно існуе па-за часавай прасторай і менавіта праз яго вызначаецца сапраўдная вартасць культуры горада і краіны.

# Камісар мастацтваў

**Адкрыццё Віцебскага мастацкага тэхнікума 1 верасня 1923 года стала чарговым этапам развіцця мастацкай адукацыі Беларусі. Пасля далучэння Віцебска ў 1924 годзе да БССР установа была перайменавана ў Беларускі дзяржаўны мастацкі тэхнікум, арганізацыю якога Віцебскі губернскі аддзел народнай адукацыі даручыў выхаванцу Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў, выкладчыку Мастацкага тэхнікума ў горадзе Веліжы Міхаілу Керзіну, 130 гадоў з дня нараджэння якога адзначалася ў сакавіку.**



*М. Керзін. Вечная памяць героям, якія загінулі ў барацьбе за Радзіму. 1947 год. Бронза. Уласнасць НММРБ, Мінск.*

**Людміла НАЛІВАЙКА**

Вядомага скульптара, педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў СССР М. Керзіна справядліва лічаць адным з пачынальнікаў станковай і манументальнай беларускай скульптуры савецкага перыяду. Яшчэ выпускніком Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў скульптар вызначыўся дыпломным творам «Вакханалія». У 1913 годзе паводле эскіза М. Керзіна быў адліты мемарыяльны сярэбраны рубель да 300-годдзя дома Раманавых, па замове Расійскага Таварыства пладаводства ён зрабіў эмблему арганізацыі — рэльеф «Пладаводства» (1913 — 1914 гг.), звярнуўшыся да вобраза багіні пладоў у рымскай міфалогіі Памоны. Сёння твор знаходзіцца ў калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.

Пасля рэвалюцыі Керзін ствараў вобразы канкрэтных герояў — партрэты прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі Л. Собінава, Г. Грыгоніса, народнага артыста СССР Г. Глебава і інш. Прыкладам савецкага класіцызму з'яўляецца міфалагічны сюжэт у кампазіцыі «Вечная памяць героям, якія загінулі ў барацьбе за Радзіму» (1947). Трэба адзначыць, мастацкі стыль аўтара практычна не змяняўся на працягу ўсяго творчага шляху. М. Керзін — мастак свайго часу, ідэйна загартаваны, упэўнены ў тым, што адзіна магчымы стыль у творчасці — класічны. Дзякуючы яму была замацавана трывалая сувязь паміж акадэмічнай формай і сацыяльным заказам у мастацтве, манументальна-адукацыйная задача якога ахоплівае шырокія плыні грамадства ў любой краіне свету. Скульптар жыў на пераломе эпох палітычных сістэм: царызму і бальшавізму, яго творчасць адлюстроўвае прынцыпы партыйнай ідэалогіі, якая збольшага схілялася да прыняцця здабыткаў старых часоў, не прымала ідэй рэфарматараў-рэвалюцыянераў. У знакамітым артыкуле на старонках сваіх «Очерков по истории изобразительного искусства Белоруссии» 1940 года М. Керзін выносіў катэгарычны загад мастакам: ствараць узоры савецкай класікі, вартыя вялікай эпохі. Такім чынам, ён аказаўся на сваім месцы ў барацьбе за новы савецкі класіцызм.

Але вернемся ў паўночную сталіцу Беларусі. Традыцыі Віцебскай мастацкай школы закладаліся адразу пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі: у 1919 годзе адкрылася Віцебскае мастацкае вучылішча, у 1921-м — Мастацка-практычны інстытут. Школу стваралі такія выбітныя творчыя асобы, як М. Дабужынскі, В. Ермалаева, Л. Лісіцкі, К. Малевіч, М. Шагал і інш. Гэты перыяд — адзін з самых яскравых прыкладаў у гісторыі мастацтва, калі педагогі маглі дазволіць сабе нетрадыцыйныя спосабы мастацкай выразнасці, стылізацыю. Формамі мастацкага самавыяўлення на той момант сталі супрэматызм, сюррэалізм, мадэрнізм, сімвалізм. Такім чынам, з 1923 года адбылася не толькі змена ідэалагічнага кіраўніцтва, але і парадыгмаў у мастацтве. Як пішуць даследчыкі, «скульптар-рэаліст Керзін змяніў фармаліста Малевіча на пасту камісара мастацтваў у Віцебску».

Асноўным прынцыпам новай навучальнай установы стала ідэйная барацьба супраць фармалістычных плыняў і выхаванне кадраў у традыцыях акадэмічнага мастацтва. Спецыялізацыя адбывалася ў трох аддзяленнях: жывапіс, скульптура, кераміка. Срок навучання — 4 гады. У педагагічны склад уваходзілі В. Волкаў, М. Керзін, М. Лебедзева, Я. Мінін, М. Міхалап, В. Хрусталёў, Ф. Фогт, Г. Шульц, М. Эндэ і інш. У 1928 годзе былі адкрыты курсы малявання для рабочых і чырвонаармейцаў пад кіраўніцтвам З. Гарбаўца. Між іншым, творы настаўнікаў і навучэнцаў тэхнікума гэтага перыяду складаюць адзін з найцікавейшых раздзелаў Нацыянальнага мастацкага музея. У калекцыю графікі ўваходзяць работы студэнтаў, якія экспанаваліся на ўсебеларускіх выстаўках, сярод іх — кампазіцыі з Першай Усебеларускай выстаўкі 1925 года на тэму «Сялянская праца», арнаменты ў крузе, у чатырохкутніку (кіраўнікі М. Лебедзева і М. Эндэ).

Тэхнікум стаў alma mater для цэлага пакалення беларускіх скульптараў, жывапісцаў, графікаў, тэатральных мастакоў, сярод яго выпускнікоў — З. Азгур, А. Бембель, А. Глебаў, Я. Зайцаў, П. Масленікаў, Я. Нікалаеў, С. Селіханаў, В. Цвірка і інш. Адбываўся працэс зліцця рэвалюцыйных пераўтварэнняў з набыткамі культурнай спадчыны. Аднак былі і адмоўныя моманты. Напрыклад, стаўленне новага кіраўніцтва да эксперыментальных пошукаў і здабыткаў папярэднікаў.

Тым не менш дадзены гістарычны досвед паказвае, што мастацкі працэс не можа ператварацца ў поле бескампраміснай бойкі. Заўсёды ёсць мастакі, якія прытрымліваюцца акадэмічных прынцыпаў і схільныя да іх парушэння. Кожная плынь мае права на натуральнае развіццё. Але да гэтых высоў мы дайшлі толькі цяпер — праз церні пакутаў, зламаных лёсаў, згубленых талентаў, страчаных альбо не створаных шэдэўраў.

# Зямля пад белымі крыламі

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

## Слова краязнаўцы



**Аляксандра БЕЗМЕН, дырэктар народнага гісторыка-краязнаўчага музея «Невычэрпная крыніца гісторыі» гімназіі № 25 г. Мінска, распавядае пра свой шлях у краязнаўства:**

— Некалькі гадоў таму я ўпершыню зайшла ў школьны музей. Ніколі раней не бачыла, каб дзеці праводзілі экскурсіі. Ды з такім імпэтам! Пасля іх расповеду падышла да кіраўніка музея, настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Аліны Казіміраўны Пахвалёнай, і пацікавілася, ці магу і я быць экскурсаводам. Яна з вялікім задавальненнем дала мне вывучыць лекцыю пра прас.

Праз тыдзень мы зноў сустрэліся ў музеі. Я вельмі хвалявалася. Стоячы каля сваіх экспанатаў, слухала юных экскурсаводаў, якія расказвалі пра калатоўку, верацяно, грэбень… Калі падышла мая чарга, узяла прас і пачала свой расповед... Вось з таго часу і працую ў школьным музеі, а цяпер з'яўляюся яшчэ і яго дырэктарам. Гэтая дзейнасць не можа не захапляць. Амаль кожны тыдзень мы ладзім выстаўкі да беларускіх свят. Кожны год рыхтуем выстаўку да дня горада Мінска ў Цэнтральным дзіцячым парку імя Горкага. Да нас падыходзяць шмат людзей, і мы праводзім для іх экскурсіі на роднай мове, у беларускім народным строі. Выкарыстоўваем у сваёй дзейнасці і інтэрактыўныя формы. Да прыкладу, падчас правядзення экскурсіі «Цуды музея» дзеці маюць магчымасць паспрабаваць сябе ў ролі гаспадынь: прасуюць бялізну прасамі, якія награваюцца вуголлем, узважваюць на бязмене, ставяць вінілавыя пласцінкі на патэфон... Такім чынам музей становіцца месцам, дзе забавы сумяшчаюцца з набыццём ведаў па гісторыі.

Але асноўная задача краязнаўства — гэта пошукава-даследчая праца. Маё першае даследаванне — «Той край багаты, дзе віруюць рэкі, дзе шумяць лясы…» — прысвечана малой Радзіме, Бярэзіншчыне, а дакладней, — паданням Бярэзінскага раёна. Я сустракалася з тутэйшымі старажыламі, запісвала іх гісторыі ды расказвала пра сваю работу. Даведаўшыся пра наш музей, многія захацелі перадаць у фонд розныя рэчы, каб захавалася памяць пра іх уладальнікаў.

Вялікае ўражанне на мяне зрабіў першы нацыянальны форум «Музеі Беларусі», які праходзіў летась у Гродне. Мы прадстаўлялі Мінск і атрымалі дыплом лаўрэата конкурсу «Музеі Беларусі — трэцяму тысячагоддзю» ў намінацыі «Лепшы музей па арганізацыі культурна-адукацыйнай дзейнасці ў справе патрыятычнага выхавання моладзі» за фарміраванне нацыянальнай свядомасці вучняў праз вывучэнне культурнай спадчыны беларусаў сродкамі музейнай педагогікі. Упэўнена, краязнаўства выхоўвае павагу да сваёй спадчыны і гонар за яе.

## Музейны ўнікат

# Помнік сакральнай культуры

У Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь адбылася прэзентацыя ўнікальнага двухбаковага працэсійнага абраза — ферэтрона, які быў створаны ў XVIII стагоддзі.

**Раіса МАРЧУК,**
**фота Кастуся Дробава**

Ферэтрон — гэта вынасны абраз або скульптура. Выкарыстоўваўся падчас працэсій у каталіцкіх і ўніяцкіх храмах. Жывапісныя выявы ў ім размяшчаліся з абодвух бакоў і, як правіла, мелі прыгожа аздобленыя разьбяны картуш, які мацаваўся на спецыяльным невысокім століку. Акрамя сваёй «працэсійнай» функцыі такі абраз выконваў у храме ролю бакавога алтара. Гэтая акалічнасць, а таксама багатая разьбяная аздоба адрозніваюць яго ад вынасных абразоў праваслаўных цэркваў.



Выява Хрыста.

Звычайна адна з выяваў ферэтрона прадстаўляла Маці Божую, а другая змяшчала вобраз святога або біблейскі сюжэт, у гонар чаго быў асвечаны храм. На ферэтроне, які быў прадстаўлены ў Нацыянальным гістарычным музеі, да драўлянага разьбянога картуша з аднаго боку прымацавана жывапісная, напісаная на палатне алейнымі фарбамі выява Хрыста, з другога — выява Маці Божай Ружанцовай з укленчанымі перад ёй Святымі Дамінікам і Розай Лімскай. Апошнія ў адпаведнасці з канонамі іканаграфіі прадстаўлены ў чорна-белай вопратцы манахаў-дамініканцаў.

— Наогул, такіх унікальных помнікаў сакральнай культуры ў Беларусі захавалася зусім мала, — распавяла навуковы супрацоўнік гістарычнага музея, захавальнік калекцыі іканапісу Галіна Флікоп. — Для нас гэта сапраўды незвычайная каштоўнасць, паколькі ў музейнай калекцыі такі прадмет адзіны. Ферэтрон — не проста выдатны твор, ён спалучае рысы выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва: цудоўны жывапіс і па-майстэрску выкананую разьбу на картушы.

Дарэчы, у фонды гістарычнага музея ферэтрон патрапіў у 1971 годзе, калі яго знайшлі падчас экспедыцыі, хутчэй за ўсё на Віцебшчыне. Аднак з-за дрэннага стану рарытэт ніколі не экспанаваўся. Летась дзякуючы калектыву рэстаўратараў ААТ «Белрэстаўрацыя» на чале з Уладзімірам Нікіціным абраз атрымаў другое жыццё.



Выява Маці Божай Ружанцовай з укленчанымі перад ёй Святымі Дамінікам і Розай Лімскай.

— Цяпер вядзецца падрыхтоўка да міжнароднага праекта, у межах якога будуць прадстаўлены беларускія абразы са збору Нацыянальнага гістарычнага музея, — зазначыла Галіна Флікоп. — Ферэтрон зойме на выстаўцы цэнтральнае месца, бо такія ўнікальныя, значныя і адметныя рэчы людзі павінны бачыць.

## Творчыя стасункі

# Згадка пра Бацькаўшчыну

Гліняныя вырабы майстроў Магілёўскай вобласці экспанаваліся на выстаўках у межах VIII Міжнароднага фестывалю сібірскай керамікі ў расійскім горадзе Новасібірску.

**Вольга СЕМЧАНКА,**
**фота аўтара**

Арганізатары фестывалю — Міністэрства культуры Новасібірскай вобласці, некамерцыйны фонд «Цэнтр народнай рамеснай культуры» — ставяць мэтай адра-джэнне, захаванне і развіццё мастацкіх рамёстваў як глыбіннага пласта народнай культуры. З кожным годам пашыраецца геаграфія фестывалю. Гэтым разам да шматлікіх расійскіх майстроў далучыліся керамісты Узбекістана і Беларусі.

Народную творчасць нашай краіны прадставілі майстры Магілёўшчыны. Непасрэдна на фестываль паехаў таленавіты малады кераміст Аляксей Сапажкоў, метадыст Магілёўскага абласнога метадычнага цэнтра народнай творчасці і культурна-асветнай работы. Аляксей уваходзіў у склад журы фестывалю, даваў майстар-клас па дробнай пластыцы. Апроч таго, магіляўчанін даставіў у Новасібірск свае вырабы з гліны — пано, дробныя сувеніры і інш., а таксама работы яшчэ трох майстроў па кераміцы: Аляксандра Котава з Клімавіч, Аляксандра Арлова і Юрыя Боўды з Бабруйскага раёна.

Усе чатыры прадстаўнікі Магілёўшчыны былі адзначаны дыпломамі ўдзельнікаў фестывалю за высокі мастацкі ўзровень вырабаў, садзейнічанне пераемнасці традыцый у галіне керамікі і ганчарнага майстэрства. Акрамя таго, Аляксею Сапажкову і Аляксандру Котаву былі прысуджаны дыпломы лаўрэатаў за перамогу ў конкурсе мастацкіх вырабаў.



Аляксей Сапажкоў. Пано «Маладосць у сэрцы».

Сапраўды, беларускія майстры годна выглядалі на фоне іншых удзельнікаў дзякуючы аўтэнтычным тэхналогіям і традыцыйным формам сваіх вырабаў, яскравым народным матывам. Расіяне былі ў захапленні ад творчасці майстроў Бабруйшчыны, асабліва ад іх арыгінальнай сувенірнай прадукцыі — ганчарнага посуду ў мініяцюры. Карысталіся папулярнасцю тэракотавыя пано Аляксея Сапажкова, работы Аляксандра Котава: керамічныя кампазіцыі, а таксама акарыны і свістулькі, зробленыя ў выглядзе традыцыйных конікаў, вершнікаў, птушак. Па завяршэнні выставак работы беларускіх майстроў перададзены ў дар Новасібірскаму цэнтру беларускай культуры — як згадка пра далёкую Бацькаўшчыну.

## Маляванкі, драпанкі...

На выстаўцы ў Гродзенскім дзяржаўным музеі гісторыі рэлігіі, якая будзе доўжыцца амаль два месяцы, можна ўбачыць велікодныя яйкі з фондаў музея. Таксама ўпершыню прадстаўлена калекцыя ігумені Гаўрыілы Гродзенскага Свята-Ражство-Багародзічнага жаночага манастыра.

Дагэтуль унікальныя рэчы, падарункі вернікаў і ўладыкі Рускай Праваслаўнай Царквы маглі бачыць толькі госці манастыра. Самыя раннія прадметы створаны ў канцы XIX ст. Сярод экспанатаў — фарфоравыя, металічныя, васковыя, шкляныя, каменныя яйкі, а таксама традыцыйныя маляванкі, драпанкі, васковачкі. Самае маленькае яйка — велічынёй усяго 2 см, самае вялікае — каля 40 см. Ёсць у калекцыі яйкі з сакрэтам, выкананыя па матывах знакамітых вырабаў Фабержэ, і яйкі, распісаныя натуральнымі эмалямі, упрыгожаныя выявамі Збавіцеля, Багародзіцы, сцэнамі Уваскрэсення Гасподня, малюнкамі храмаў. Сярод найбольш цікавых — экспанаты, выробленыя ў XIX ст. на Санкт-Пецярбургскім імператарскім фарфоравым заводзе і вядомых заходнееўрапейскіх прадпрыемствах Германіі, Францыі, Польшчы.

**Бажэна СТРОК**

# Палескія вёсны

Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ

— Лунінец — не проста раённы цэнтр Брэстчыны. Гэта — «лунный» горад, загадкавы, як поўня. З багатай гісторыяй, самабытнай культурай, унікальнай прыродай, цікавымі людзьмі, — у вачах Тацццяны Канапацкай летуценнасць. — Мне заўсёды горка чуць, калі хто-небудзь з суразмоўцаў пытае: «Лунінец? А дзе ён? Чым і кім знакаміты?»

— Мабыць, Лунінец — гэта і лунь, белы туман, які пакрывае лугі і нівы толькі перад узыходам сонца, — спрабую пажартаваць. — І луннік — трава з ліловымі духмянымі кветкамі, пах якіх разносіцца далёка…

— А чаму б і не? — згаджаецца Тацццяна. — У нас і луннік паўсюдна красуе, і лунь — звычайная з'ява. На жаль, пра багацце нашых мясцін мала хто ведаў. Я вырашыла сабраць як мага больш гістарычных матэрыялаў і на іх аснове стварыць летапіс — як дадатак да гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць». Іншымі словамі, мы вырашылі пашырыць прастору гэтага праекта. Час сведчыць: не разумець і не адчуваць мінуўшчыну — значыць не разумець сучаснасць.

Ведаю Тацццяну Канапацкую даўно. Высокая, стройная, заўсёды з густам апранутая. Мне імпануе яе стрыманасць. Нешматслоўная, строгая, упэўненая ў сабе жанчына, без лішніх жэстаў і мітуслівых усмешак. Увесь невялікі рэдакцыйны кабінет — так мне падалося — напоўнены творчымі здабыткамі і задумамі Тацццяны Васільеўны. Скажу без перабольшвання: зроблена ёю нямала. Пад яе рэдакцыяй выйшлі чатыры ілюстраваныя кнігі. Усе яны заўважаны ў Беларусі, атрымалі добрыя водгукі на старонках рэспубліканскай перыёдыкі.

Канечне, нельга растлумачыць поспехі ў журналістыцы (лаўрэат прэміі «Залатое пяро») і краязнаўстве толькі абаяннем творчай асобы. Ёсць іншая прычына — руплівасць і працавітасць. Рыхтуючы кнігі «Лунінецкая памяць», Тацццяна літаральна выключала сябе з жыцця, працавала па дзесяць-дванаццаць гадзін у суткі. «Вольны час», «адпачынак» праходзілі ў архівах, бібліятэках, музеях Масквы, Мінска, Санкт-Пецярбурга, Кіева, Львова… Ніхто ёй не выпісваў камандзіровачных. Усе паездкі — за ўласны кошт.

Журналістка прыцягнула да супрацоўніцтва мясцовых краязнаўцаў, работнікаў сферы культуры, настаўнікаў, усіх, хто быў неабыякавым да лёсу горада. Многія з памочнікаў, як, напрыклад, Наталля Казанкова, сталі затым яе надзейнымі сябрамі і прыхільнікамі. Дапамагалі старажылы і іх нашчадкі, якія мелі шмат фотаздымкаў і гістарычных матэрыялаў у сямейных архівах.

Напісаць кнігу — адна справа. Іншая, больш складаная — яе надрукаваць. Выдаўцы патрабавалі разлік, перадаплату. Дзе знайсці сродкі? І Тацццяна тлумачыла, даказвала, часам прасіла-маліла. Накіроўвала лісты землякам у іншыя краіны.

Тацццяна Канапацкая даўно зразумела, што жыццё — не жарт і не забава, а цяжкая праца, пераадоленне перашкод. Іх на яе долю выпала нямала. Мае знаёмыя «па сакрэце» сцвярджалі, што цяжкасці яна стварае сама сабе. Наўрад ці. На мой погляд, некаторыя чыноўнікі, не разумеюць задум і мэт журналісткі. Скажам, ёсць у горадзе старая вуліца, усе даўно прывыклі да назвы. Не, Канапацкая падбухторвае грамадскасць перайменаваць яе ў Храмавную. А гэта ж — бюджэтныя затраты!

У Тацццяны на руках былі архіўныя крыніцы, згодна з якімі 420 гадоў таму менавіта тут узведзена царква, якая і дала назву вуліцы. Толькі напрыканцы 1940-х ваяўнічыя атэісты яе перайменавалі. Урэшце перамог здаровы сэнс. На тэрыторыі катэджнай забудовы з'явіліся вуліца Храмавая і завулак Храмавы.

І такіх, на першы погляд, нязначных перамог дзеля гістарычнай Праўды, для Памяці нямала на рахунку Тацццяны Канапацкай. Гэта і зацвярджэнне гербаў сельсаветаў, і ўшанаванне месцаў смерці яўрэяў, і ўсталяванне памятных знакаў у гонар вядомых землякоў. У тым ліку і Мікалая Калінковіча — пісьменніка, публіцыста, краязнаўца, баявога савецкага афіцэра. У 1990 годзе яго не стала. Пайшоў з жыцця, калі не было і 40 год. Дзякуючы намаганням Тацццяны Васільеўны ў цэнтры Лунінца з'явіўся помнік М. Калінковічу (скульптар Мікалай Кандрацьеў). У раёне праводзяцца конкурсы чытальнікаў і маладых паэтаў, літаратурна-краязнаўчыя і навукова-практычныя канферэнцыі, прысвечаныя памяці пісьменніка.

— Таня, калі б вы былі экскурсаводам, з чаго пачыналі б аповед пра свой родны і любімы горад? — спытаў я суразмоўцу напрыканцы сустрэчы.



*Тацццяна Канапацкая і дырэктар музейна-выставачнага комплексу «Валакаламскі Крэмль» Віктар Іўчанкаў (Расія) падчас XXVII Рэспубліканскага свята «Каласавіны».*

— А я часта выступаю ў ролі экскурсавода, — адказала яна. — Збіраемся каля Свята-Крыжаўзвіжанскай царквы, а разыходзімся на чыгуначным вакзале. На гэтым «маршруце» — цікавыя архітэктурныя збудаванні, тут адбываліся многія гістарычныя падзеі… Было б цудоўна стварыць тут лунінецкі Арбат, устанавіць помнікі Якубу Коласу, знакамітаму авіяканструктару Паўлу Сухому, якія некалі працавалі ў нас настаўнікамі.

Што ж, хто ўмее лятаць у сваіх марах, у таго вырастаюць крылы.

Гасцёўня

# Праверка на прафесіяналізм

**Слова «кватэрнік» можа выклікаць розныя асацыяцыі. Насамрэч гэта разнавіднасць музычнага канцэрта, які актыўна развіваўся ў СССР і звычайна праводзіўся ў гарадской кватэры.**

Раіса МАРЧУК,
фота Кастуся Дробава

Перад слухачамі, якія мелі магчымасць бліжэй пазнаёміцца з выканаўцамі, выступала некалькі музыкантаў. Узнікалі нязмушаныя, сяброўскія стасункі паміж артыстамі і гледачамі. Акунуцца ў атмасферу тых часоў можна ў філіяле Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь «Дом-музей І з'езда РСДРП», дзе працуе выстаўка «Кватэрнікі. Камбэк у 80-я». У экспазіцыі прадстаўлены інтэр'ер савецкай кватэры 80-х гадоў (менавіта ў такіх памяшканнях і праходзілі падобныя канцэрты), а таксама прэзентуюцца рэчы, якія спадарожнічалі гэтаму кірунку музычнай культуры. Прадметы для выстаўкі ўзяты з фондаў Нацыянальнага гістарычнага музея.

— Кватэрнікі былі распаўсюджаны ў Савецкім Саюзе да канца 1980-х гадоў з прычыны таго, што музыкі і рок-групы не маглі афіцыйна даваць публічныя канцэрты, — распавёў малодшы навуковы супрацоўнік Дома-музея І з'езда РСДРП Андрэй Ляневіч. — У падобных мерапрыемствах удзельнічалі такія вядомыя музыканты, як Барыс Грабеншчыкоў, Віктар Цой, Майк Навуменка, Юрый Навумаў і іншыя. І менавіта ў гэты час яны дасягнулі асаблівых вяршынь.

Сёння цікавасць да правядзення кватэрнікаў зноў узрастае. Абумоўлена гэта, у першую чаргу, пэўнай эксклюзіўнасцю і экзатычнасцю мерапрыемства. Хатні канцэрт з'яўляецца выдатнай праверкай на прафесіяналізм: здольнасць іграць ужывую, без фанаграмы, калі выканаўца не можа схавацца за кулісы і ўхіліцца ад зносін са слухачом, паказвае, наколькі музыкант — цікавы як чалавек.



*Звычайна так выглядалі кватэры 80-х гадоў мінулага стагоддзя.*



*Бабінны магнітафон — мара савецкай моладзі.*

— Ствараючы выстаўку, мы ставілі мэтай прыцягнуць да яе ўвагу маладых людзей, пазнаёміць іх з гісторыяй, і, шчыра кажучы, гэта нам удалося, — зазначыў Андрэй Ляневіч. — Падчас адкрыцця прысутнічала нямала хлопцаў і дзяўчат, і амаль да самага закрыцця музея ішлі старшакласнікі і студэнты, каб пазнаёміцца з новай экспазіцыяй. І цяпер кожны дзень мы бачым у сябе зацікаўленых юных наведвальнікаў. Дарэчы, на адкрыцці выстаўкі выступіў беларускі аўтарвыканаўца, лаўрэат міжнародных прэмій Аляксей Нежавец, які праспяваў песні Віктара Цоя і Уладзіміра Высоцкага, прычым адзін з твораў апошняга прагучаў на беларускай мове. Акрамя гэтага супрацоўнікі музея падрыхтавалі для прысутных нямала прыемных сюрпрызаў.

Не абмініце

# На палатне — дзіцячыя ўражанні

**Летась у збор Гомельскага палацава-паркавага ансамбля была перададзена карціна вядомага жывапісца, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Роберта Ландарскага «Сорак першы». У аўтарак у межах выставачна-адукацыйнага праекта «Класікі беларускага мастацтва» ў палацы адбылася яе прэзентацыя.**

Міра ІЎКОВІЧ

Тэма вайны невыпадковая ў творчасці мастака. Роберт Яфімавіч нарадзіўся ў 1936 годзе ў Гомелі і ў зусім юным узросце ўбачыў жахі вайны і нялёгкае жыццё ў эвакуацыі. Свае дзіцячыя ўражанні ён пазней перанёс на палотны. Адным з такіх твораў, які распавядае пра непазбежнае расстанне і трывожнае чаканне сустрэчы, з'яўляецца карціна «Сорак першы».

Аднак не толькі ваеннае ліхалецце знайшло адлюстраванне ў творчасці Роберта Ландарскага. Разам з Дмітрыем Алейнікам і Мікалаем Казакевічам ён стаяў ля вытокаў новага кірунку ў выяўленчым мастацтве гомельскага краю, якое атрымала назву «гомельскі імпрэсіянізм». Мастакі ўдыхнулі новае жыццё ў жанр пейзажа, адмовіўшыся ад цёмных фарбаў, замянілі іх чыстымі, насычанымі колерамі. Апяваючы прыгажосць роднага краю, яны стваралі жывыя, напоўненыя святлом і паветрам творы, якія прыцягваюць гледача яркімі, сакавітымі фарбамі.

# Натуральнае хараство

Арт-праект «9 1/2» з серыі выставак «Экалогія і мастацтва», што адкрыўся ў сакавіку ў Цэнтры сучасных мастацтваў, можа збянтэжыць непадрыхтаванага гледача: тут няма ні плакатаў з заклікамі берагчы наваколле, ні пейзажаў з выявамі прыродных багаццяў. Але ўдумлівы агляд экспазіцыі дае зразумець: абраныя творы выстаўлены не беспадстаўна.

**Алесь СУХАДОЛАЎ**

Як вядома, з першабытных часоў мастацтва было непадзельна звязана з прыродай. Гэта датычыць як найбольш старажытных традыцыйных відаў мастацтва, дзе адчувальная сувязь з касмічнымі рытмамі і цыкламі прыроднага жыцця, так і класічнага рэалістычнага мастацтва, у аснове якога ляжыць мімесіс — перайманне прыроды. У выстаўцы «9 1/2» удзельнічаюць прадстаўнікі аб'яднання «Аршыца» і іх аднадумцы, творчыя пошукі якіх далёкія ад акадэмічнасці і сугучныя мадэрнізму першай паловы ХХ стагоддзя. Адразу ўзнікае пытанне: наколькі сучаснае мастацтва, прадстаўленае творчасцю беларускіх мастакоў з рэгіёнаў, застаецца звязаным з прыродай, ці адпавядае яно рытмам функцыянавання экасістэмы? Безумоўна, адказ станоўчы. У сваёй творчасці аўтары востра рэагуюць на непажаданыя змены, якія адбываюцца ў навакольным асяроддзі, увогуле застаюцца вернымі інтуітыўна-сузіральнаму, сфарміраванаму натуральным асяроддзем светапогляду.

У цэнтры ўвагі праекта «9 1/2» знаходзяцца арт-аб'екты мастака з Баранавіч Алеся Фалея. Яны створаны са смецця — металалому, рыззя, рэштак будаўнічых матэрыялаў і інш. Нягледзячы на тое, што гэтыя творы калярова і кампазіцыйна вырашаны на высокім эстэтычным узроўні, у сваёй масе яны пакідаюць уражанне сціснутасці прасторы, спараджаюць трывожныя асацыяцыі. Менавіта гэтага эфекту свядома хацеў дабіцца аўтар, каб выклікаць у гледача занепакоенасць станам навакольнага асяроддзя.



*Алесь Фалей «Кампазіцыя».*

Узаемаадносіны прыроды і цывілізацыі з'яўляюцца адным з аспектаў праблематыкі творчасці Генадзя Фалея. Суvoraму металічнаму гучанню яго скульптурных кампазіцый супрацьпастаўлены трапяткі, душэўны настрой плеценых з лазы і нітак насценных інсталяцый. Пачуццё прыроднай гармоніі характэрна для акварэляў Антаніны Фалей, пейзажныя матывы ўласцівы абстрактным палотнам Аляксандра Канавалава («Паланга», «Поле» і інш.). Скульптура Васіля Васільева змяшчае ў сабе элемент рэдзімэйду (частка старадаўняй кавanай парэнчы ў рабоце «Віцебскае барока», старасвецкае крэсла ў рабоце «Hronos»), што добра абыгрываецца ў пластычным рашэнні работ і надае ім пэўны вінтажны водар. Абстрактныя палотны Анатоля Жураўлёва з серыі «Далягляды», нягледзячы на геаметрычную раз'яднанасць кампазіцыі, ураўнаважаны па колеры і сваёй суцэльнасцю нагадваюць пра міфалагічны вобраз сусветнага акіяна. Не пазбаўлены прыроднага харaства і творы іншых удзельнікаў выстаўкі: Віктара Шылко, Аляксандра Слепава, Аляксея Жарало, Віктара Сахно.

Прадстаўленыя экспанаты стылістычна розныя, але яны выяўляюць падабенства ў ідэйна-эстэтычных поглядах сваіх стваральнікаў, іх арыентацыю на лепшыя дасягненні класічнага авангарду. Усё гэта пацвярджае словы куратара выстаўкі Мікалая Пагранoccкага, што ў культуры не бывае правінцыі.

# Любіць беларускае. Трэба!

Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь запрашае да 15 красавіка наведаць выстаўку твораў народнага мастака Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, знакамітага жывапісца і педагога, выкладчыка і першага загадчыка кафедры жывапісу, колішняга рэктара Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (сёння Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў) Віталя Цвіркі «Дыханне Сусвету», прымеркаваную да 100-годдзя з дня нараджэння майстра.

**Галіна ФАТЫХАВА**

В. Цвірка займае пачэснае месца ў беларускім мастацтве побач з ганаровымі нацыянальнымі паэтамі Беларусі Янкам Купалам, Якубам Коласам, Максімам Багдановічам. Іх творчасць аб'ядноўвае тонкі лірызм, планетарнасць мыслення, глыбокая нацыянальная самасвядомасць, жыццесцвярджальнасць, вольналюбівыя матывы, вера ў будучае свайго народа. Менавіта таму сцвярджэнне «трэба любіць беларускае» стала своеасаблівым дэвізам выстаўкі «Дыханне Сусвету».

Прадстаўленая экспазіцыя складаецца са 160 твораў мастака, тут можна пабачыць як акварэльныя, так і жывапісныя палотны. «Беларускі менталітэт — вось тая асаблівасць твораў В. Цвіркі, якая прыцягвае ўвагу замежных гледачоў», — адзначылі на адкрыцці выстаўкі прадстаўнікі дыпламатычных місій Латвіі і Літвы. У сваю чаргу, дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў распавёў, што выстаўка «Дыханне Сусвету» пройдзе ва ўсіх буйных гарадах Беларусі.

Варта адзначыць, святочныя мерапрыемствы, прысвечаныя 100-годдзю з дня нараджэння выбітнага мастака, ужо праходзілі ў Нацыянальным мастацкім музеі. Не так даўно адбылася працэдура гашэння маркі і канверта з выявай партрэта майстра і пейзажа яго аўтарства «Блакітны дзень». Выхаванцы мастацкай школы № 1 імя В. Цвіркі падрыхтавалі арт-аб'ект — калаж са ста копій карцін мастака з серыі «Каложа». Менавіта тады намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Леанід Хобатаў паабяцаў пры дапамозе Міністэрства культуры зрабіць усё, каб пра мастака, яго творчасць ведаў кожны беларус. Выдавецтва «Беларусь» прэзентавала кнігу-манаграфію «Віталь Цвірка» з серыі «Славутыя мастакі Беларусі». Фармат яе — невялікі, кампактны, арыентаваны на шырокага чытача — абавязкова падштурхне да больш дэталёвага знаёмства з мастаком, яго жыццём і творчасцю. Нярэдка агучваліся прапановы надаць Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў ці Палацу мастацтва імя вялікага пейзажыста. Няблага было б мець і ў сталіцы вуліцу імя В. Цвіркі — Мінск любіў і ўслаўляў у сваіх палотнах маэстра.

Мастак стварыў манументальна-велічны эпічны, дынамічны, экспрэсіўны лірычны вобраз беларускай прыроды. Суб'ектыўнага ў Цвіркі амаль няма, ён быў надзелены здольнасцю адчуваць прыроду так, нібыта яна размаўляла з ім сама. З вялікім майстэрствам, таленавіта і пераканаўча В. Цвірка паказвае пранізлівую, ветраную прастору, душную спякоту лета, ціхую развітальную мудрасць восені, магутную радасць абуджэння зямлі вясною. Раман-эпапея — вось жанр літаратуры, які яму пасуе больш за ўсё. Колер на палотнах не страчвае багацця ў любым пейзажным вобразе.

На жаль, цудоўныя работы В. Цвіркі нельга пабачыць у асобнай зале — у нас па сёння няма асобнай галерэі мастака. У фондах Нацыянальнага мастацкага музея 163 творы — ёсць што паказаць! Час ідзе, усё змяняецца, але класіка застаецца, таму добра было б, каб мы мелі магчымасць у любы момант прыйсці ў залу В. Цвіркі і пабачыць яго карціны.



*«Талы снег». 1980 г. Акварэль.*




Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ





Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны: галоўны рэдактар — 284-66-73; намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы: публіцыстыкі — 284-66-71; крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04; прозы і паэзіі — 284-44-04; мастацтва — 284-82-04; навін — 284-44-04; аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71; бухгалтэрыя — 287-18-14; Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by





Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3000 рублёў
Наклад — 2728
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 04.04.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1613
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686